ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

7 лютага 1997 г. № 6/3882 Кошт 3 000 руб.





*Прафесар Яўген ГЛАДКОЎ.*

# Цымбальнае супершоу: настаўнік і вучні

***Ніколі яшчэ філарманічны вечар не збіраў так шмат яркіх цымбальных"зорак" і "зорачак". Канцэрт доўжыўся дзве гадзіны. І калі ў Вялікай зале сталічнай філармоніі адгучаў апошні акорд п'есы "Бывайце здаровы" — самабытны жартоўны парафраз кампазітара Уладзіміра Кур'яна на тэму вядомай аднайменнай песні І. Любана, зала выбухнула авацыяй. Слухачы ў адзіным ўздыме ўзняліся са сваіх месцаў і стоячы выказвалі захапленне. Ім не хацелася развітвацца з высокай духоўнасцю, сапраўднай прыгажосцю і "солнцем бессмертным ума..."***

*(Працяг на стар. 10—11)*



*Лаўрэат міжнародных конкурсаў Ларыса РЫДЛЕЎСКАЯ.*

## З першых бібліёграфаў Цёткі

**Юлія Бібіла адной з першых, яшчэ ў 1928 годзе, надрукавала матэрыялы да біяграфіі слыннай песнякркі-адраджэнкі. ("Запіскі аддзела гуманітарных навук", кніга 2-ая. Працы класа філалогіі, том І-ы). Дарэчы, Юлія Іосіфаўна і стаяла ля вытокаў нацыянальнай бібліяграфіі, якую доўгі час называлі беларускай савецкай...**

**У 1925 годзе Ю. Бібіла скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт, але яшчэ з 1922-га загадвала беларускім аддзелам Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. На жаль, беззаконне ў трыццатыя гады сказалася і на лёсе Ю. Бібілы. З 1937 года яна стала галоўным бібліёграфам Саратаўскага універсітэта. У Мінск змагла вярнуцца толькі ў 1959 годзе.**

**20—30-ыя гады ў дзейнасці Ю. Бібілы былі плённымі. Па сённяшні дзень вялікую каштоўнасць мае паказальнік выданняў на беларускай мове, што пабачылі свет у Расіі з 1835 па 1916 гады. Улічыла Ю. Бібіла і кнігі, выдадзеныя ў БССР і за яе межамі ў 1917—1924 гады. Яна збірала рэспубліканскі і краязнаўчы кніжны фонд, распачала бібліяграфічную рэгістрацыю друку БССР, складанне першай у нашай краіне краязнаўчай бібліяграфічнай картатэкі.**

**Па вяртанні на радзіму таксама не развіталася з любімай справай. Пры ўдзеле Ю. Бібілы ў 1969 годзе пабачыў свет, складзены М. Кракавай і А. Сакольчыкам, даведнік "Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм". Разам з А. Сакольчыкам яна склала бібліяграфічны паказальнік "Асвета ў Беларускай ССР за 50 гадоў савецкай улады" (1973).**

**Сёлета споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Юліі Іосіфаўны. Яна пражыла доўгае і змястоўнае жыццё і пакінула пра сябе добрую памяць.**

## Залатое вяселле на... сцэне

**"Свята робяць людзі, мы вам за яго вельмі ўдзячны", сказала на закрыцці вечара Галіна Васілеўская.**

**Упершыню ў Доме літаратара святкавалі такую знамянальную дату два літаратары — Галіна і Пятро Васілеўскія.**

**Аб іх жыцці, шляху ў літаратуры і грамадскай рабоце на творчым вечары гаварылі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, галоўны рэдактар часопіса "Алеся" М. Карпенка, народны артыст Г. Аўсяннікаў, пісьменніца Н. Галіноўская, драматург А. Дзялендзік, старшыня Саюза кінематаграфістаў РБ А. Красінскі, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў А. Пісьмянкоў, які вёў гэтую цудоўную вечарыну кахання і любові.**

**"Паўвека шлюбу, роду прадаўжэння Пятра і Галіны", — чытала свой новы верш В. Аколава. Быў яшчэ адзін сюрпрыз — прысутныя ўбачылі казку Г. Васілеўскай "Як лютасць стала літасцю" ў выкананні артыстаў Тэатра юнага гледача.**

**Г. Васілеўскай уручана Ганаровая грамата СП у сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння.**

**Яшчэ больш пазналі ўдзельнікі вечара Пятра Савельевіча. Фрагмент з камедыі "Рагаты бастыён", у якой, як адзін з аўтараў, прымаў удзел і П. Васілеўскі, цёпла прынялі гледачы.**

**Спадабаліся юбілярам і слухачам песні, якія праспявалі артыстка Н. Кавалёва і ансамбль "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам І. Раманчука.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## Пабольшала педагагічных выданняў

**Былі часопісы "Народная асвета", "Пралеска", "Роднае слова" і іншыя адрасаваныя ў першую чаргу педагагічным работнікам, а цяпер у іх шэрагу з'явіўся яшчэ адзін — "Вышэйшая школа". Можна спадзявацца, што новае выданне акажа добрую паслугу ўсім, каму неабыякавы праблемы вышэйшай адукацыі на сучасным этапе. У гэтым упэўніваешся, калі знаёмішся з матэрыяламі, што апублікаваны на старонках "ВШ". Прынамсі, прыцягвае ўвагу артыкул знакамітага Р. Гарэцкага "Вышэйшая школа і Акадэмія навук Беларусі".**

# На прэміі прафсаюзаў

***Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў разгледзела матэрыялы і работы, якія вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій 1997 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе дапушчаны:***

**1. За творы прозы і паэзіі (адна прэмія)**

**Мікола Маляўка** — зборнік вершаў "Ручнічок на крыжы". Мінск, "Мастацкая літаратура", 1995 год.

**Соф'я Шах** — зборнік вершаў "Пад высокай лагодай нябёс". Мінск, "Мастацкая літаратура", 1995 год.

**Валерый Касьянчык** — зборнікі вершаў "Рэха Сарыязека". Мінск, ВЦ "Бацькаўшчына", 1995 год, "Стихи о женщине", 1996 год.

**2. За музычныя творы і канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія)**

**Эдуард Зарыцкі** (кампазітар) — за песенны цыкл "Пад родным небам" (на словы Н. Гілевіча), 1994 год.

**Георгій Карант** (канцэртмайстар) — за творчы ўклад у пастаноўку оперных спектакляў у апошнія гады і падрыхтоўку канцэртных праграм.

**3. За работы ў галіне тэатральнага- і кінамастацтва (адна прэмія)**

**Уладзіслаў Осіпаў** (рэжысёр),
**Аляўціна Маслава** (мастак),
**Расціслаў Янкоўскі** (артыст),
**Юрый Сідараў** (артыст) — за стварэнне спектакля "Вячэра" па п'есе Ж. К. Брысвіля ў Дзяржаўным рускім акадэмічным драматычным тэатры.

**Міхаіл Жданоўскі** (кінарэжысёр) — за дакументальны відэафільм "На каждый звук есть эхо на земле".

**4. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва (адна прэмія)**

**Зарына Баўтрук** — за серыі керамічных работ: дэкаратыўныя пласты "Сумерки", дэкаратыўныя пасудзіны "Фламинго", дэкаратыўныя збаны "Ирисы".

**Пётр Шаціла** — за керамічныя вырабы апошніх гадоў, выкананыя ў традыцыях народнага мастацтва.

**5. За работы ў галіне журналістыкі (адна прэмія)**

**Леанід Екель** — за цыкл нарысаў, прысвечаных людзям і праблемам сённяшняга дня.

**Лілія Бялецкая** — спецыяльны карэспандэнт,
**Алёна Давідовіч** — каментатар,
**Ірына Жук** — каментатар,
**Юрый Рабчук** — старшы рэдактар (творчы калектыў радыёпраграмы "Прамень" рэспубліканскага радыё Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь) — за падрыхтоўку і выпуск інфармацыйна-аналітычных радыёперадач сацыяльна-эканамічнай накіраванасці.

**6. За дасягненні ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці (тры прэміі)**

У тым ліку:

а) за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці (адна прэмія):

**Леанід Кунда** — дырэктар Брэсцкага абласнога Палаца культуры прафсаюзаў;

**Стэла Іванова** — дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці;

б) за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дарослых самадзейных калектываў) — адна прэмія

**Народны хор "Жыцень"** Дома культуры навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл";

**Народная харавая капэла** Рэспубліканскага міжсаюзнага Палаца культуры прафсаюзаў;

**Народны ансамбль танца "Прялица"** Палаца культуры "Юнацтва" Гродзенскага вытворчага прадзільна-ніткавага аб'яднання;

в) за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дзіцячых самадзейных калектываў) — адна прэмія.

**Узорны ансамбль танца "Зубраня"** Палаца культуры Мінскага аўтазавода;

**Узорны ансамбль танца "Светлячок"** Палаца культуры энергетыкаў Лукомльскай ДРЭС;

**Узорны фальклорны ансамбль "Зорачка"** Нацыянальнага Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі, г. Мінск.

Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на атрыманне прэміі Федэрацыі прафсаюзаў 1997 года.

Вашы водгукі, заўвагі, прапановы просім да 1-га красавіка г. г. накіраваць па адрасе: *220126, г. Мінск, пр. Машэрава, 21, Савет Федэрацыі прафсаюзаў, Камісіі па прэміях ФПБ (пакой 713).*

# "Вяртанне"... Працяг работы

Пад эгідай Беларускага фонду культуры, Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, Камітэта па архівах і справаводстве, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны пабачыў свет трэці зборнік артыкулаў і дакументаў "Вяртанне", які выдадзены коштам Эксперыментальнага комплекснага прадпрыемства "Светач". Гэта яшчэ адно сведчанне таго, наколькі плённа працуюць камісія "Вяртанне" Беларускага фонду культуры і Скарынаўскі цэнтр па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцяў, што ў розны час і па розных прычынах апынуліся за межамі Бацькаўшчыны.

Адкрываецца зборнік уступным словам старшыні праўлення БФК У. Гілепа. Далей ідуць матэрыялы Міжнароднага "круглага стала" пад назвай "Лёсы беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцяў у час другой сусветнай вайны і пасля яе (перамяшчэнне, выяўленне, вяртанне)", пасяджэнне якога адбылося 18 мая 1995 года ў межах II Міжнароднага кангрэса беларусістаў у Мінску. Змешчаны даклады старшыні грамадскай камісіі "Вяртанне" БФК А. Мальдзіса "Трагічныя лёсы беларускіх музейных, бібліятэчных і архіўных збораў у час другой сусветнай вайны", супрацоўніцы даследчыцкага цэнтра "Усходняя Еўропа" Брэменскага універсітэта (Германія) Г. Фрайтаг "Ахова помнікаў мастацтва ў амерыканскай зоне і палітыка рэстытуцыі", навукова-га супрацоўніка НМА "Расійская нацыянальная бібліятэка" (г. Санкт-Пецярбург) І. Матвеевай "Праблемы вяртання кніжных фондаў", скарочаны запіс выступленняў старшыні Камітэта па архівах і справаводстве пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Міхальчанкі, загадчыка аддзела старажытнага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея РБ Н. Высоцкай, загадчыцы аддзела рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Т. Рошчынай і іншых.

"Лёсы беларускіх каштоўнасцяў у Маскве" — матэрыял, падрыхтаваны Ю. Піскуном і М. Яніцкай. Як вядома, заснаванне і фарміраванне буйнейшых маскоўскіх музеяў, а таксама Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, заснаванай у 1862 годзе ў складзе Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея, адбывалася і за кошт матэрыялаў, якія паступалі з Гомельскай палацавай калекцыі графа М. Румянцава і Віленскага музея старажытнасцяў... Прыводзіцца інфармацыя пра беларускія каштоўнасці, што захоўваліся ці захоўваюцца ў канкрэтных установах Масквы. Акрамя таго, прадстаўлены і падборкі "Мігрыцыя беларускіх каштоўнасцяў па розных музеях і ўстановах Масквы", "Беларускія выданні і рукапісы ў бібліятэках Масквы", "Беларускія зборы ў архіўных сховішчах Масквы".

Чытачы, якія цікавяцца нацыянальнай даўнінай, бадай, ведаюць, што выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі ў 1994 годзе выпусціла даведнік "Дакументы па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні". Меркавалася выдаць працяг гэтай каштоўнай працы, расказаць пра матэрыялы, звязаныя з Беларуссю, якія захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі і матэрыяльнай культуры Расійскай акадэміі навук (Санкт-Пецярбург). Выдзеленых сродкаў аднак хапіла толькі на падрыхтоўку рукапісу. Калі выйдзе сам даведнік — невядома. Таму і было вырашана прадставіць гэтыя матэрыялы ў зборніку "Вяртанне-3", а ў выніку з'явіўся раздзел "Санкт-Пецярбургскія архіўныя матэрыялы пра археалагічныя (нумізматычныя) знаходкі і цэрквы Беларусі". Апублікаваны ў ім звесткі, канечне ж, могуць аказаць добрую паслугу складальнікам гісторыка-дакументальных хронік "Памяць". Але хто аплаціць выдаткі для паездкі ў Санкт-Пецярбург?

"Беларускія архівы і архіўныя матэрыялы, вывезеныя ў Расію ў канцы XVIII — пачатку XX ст." — змест асобных дакументаў Цэнтральнага навуковага архіва Акадэміі навук Беларусі, што даюць уяўленне пра месцазнаходжанне (па стане на 1925 год) архіваў і архіўных матэрыялаў, якія былі вывезены з Беларусі ці адносяцца да яе гісторыі.

У раздзеле "Дзеляцца вопытам нашы суседзі" выступаюць доктар юрыдычных навук В. Акуленка (Кіеў) — "Рэлíквіі Украіны: праблема рэстытуцыі" і супрацоўніца Харкаўскага мастацкага музея І. Кацай — "Лёс калекцыі Украінскай карціннай галерэі, згубленай у гады Вялікай Айчыннай вайны".

І на завяршэнне — падборка "З надрукаванага". У ёй апублікаваны матэрыялы, што тычацца вяртання нацыянальных каштоўнасцяў, якія перад гэтым пабачылі свет у такіх выданнях, як "Кантакты і дыялогі", "Мастацтва", "Наша Ніва", "Культура", "Народная газета", "Советская Белоруссия", "Голас Радзімы".

**Янка ЗМІТРОВІЧ**

ПОШТА

# "Дзесятая муза"

Набываючы газеты ў кіёску, неадноййчы назіраў, як чарговы чытач выбірае газету па... тэлепраграме, у ёй надрукаванай. Каб яна была выразнай, добра скампанаванай і, абавязкова, з усімі мясцовымі тэлеканаламі.

Кажуць, што чытач заўсёды мае рацыю. У дадзеным жа выпадку, думаецца, толькі часткова.

Не, я не збіраюся нікога вучыць, што і як чытаць. Наадварот. Павінен пагадзіцца, што "тэлекомпасы", надрукаваныя ў розных выданнях, маюць істотныя адрозненні, асабліва калі параўнаць рэспубліканскія і мясцовыя. Заўважу адразу, што якім шрыфтам набрана тэлепраграма, не мае значэння.

А справа вось у чым. Мясцовыя "тэлепраграммэйкеры" лічаць, што яны лепш за сталічных ведаюць, як інфармаваць чытачоў. З іх "лёгкай" рукі з праграм Беларускага тэлебачання цалкам выкрэсліваюцца назвы дакументальных і тэлефільмаў, славутыя імёны акцёраў і рэжысёраў мастацкіх стужак, а таксама амаль усе намёкі на змест большасці вучэбных і іншых праграм.

Тэлебачанне — гэта "дзесятая муза", а для вельмі многіх беларускіх тэлегледачоў, асабліва правінцыйных, што жывуць калі не "за", дык у небяспечнай блізкасці ад рысы галечы, — гэта ўсе дзесяць муз адразу, адзінае акно ў свет. Мастацтва не павінна апускацца да спажывецкага, бытавога ўзроўню ўсведамлення, яго задача — узвышаць людзей, развіваць іх пачуцці і думкі, каб яны былі больш спагадлівыя і чулыя адзін да аднаго...

А, можа, адаптаванне тэлепраграм — гэта элемент новай "рынкавай" культуры?

**М. ШЛЯФЕР, інжынер**

*г. Магілёў*

### УДАКЛАДНЕННЕ

У артыкуле "Як маешся, навука?" ("ЛіМ" за 31 студзеня г.г.) дапушчана недакладнасць. Словы аб тым, што сёння міліцыянер атрымлівае больш за акадэміка, належалі не старшыні ВАКа РБ А. Дастанку, як сказана ў тэксце, а іншаму прамоўцу на сесіі АН Беларусі. Рэдакцыя просіць прабачэння ў Анатоля Паўлавіча Дастанкі.

# Салодкае слова свабода

## Згадкі пра апошнюю амністыю

ПАДЧАС лістападаўскага 1996 года рэферэндуму ва ўсякім разе па адным з вынесеных на яго пытанняў насельніцтва выказалася, пэўна разумеючы, у чым сутнасць справы. Я маю на ўвазе пытанне аб захаванні смяротнага пакарання. Як і можна было чакаць, пераважная большасць апытаных выказалася супраць яго адмены.

Усё тут нібы зразумела. Як канстатуюць сацыёлагі, сярод нягод, якімі сёння найбольш занепакоены грамадзяне, на першым месцы — няспыннае пагаршэнне жыццёвага ўзроўню, на другім — разгул злачыннасці, якая набывае самыя пачварныя формы. Забойцы — бязвусыя малалеткі, забойцы — жанчыны... Літаральна днямі прэсу абышла жудасная вестка з Віцебска. Маладая жанчына, падабраўшы ключы ад кватэры прыяцелькі, зайшла туды і, неспадзява-на ўбачыўшы там 12-гадовую дачушку гаспадыні кватэры, па-зверску забіла яе і, забраўшы самае каштоўнае, што трапіла на вочы, знікла. Далей ішла сапраўдная дастаеўшчына. Выкрылі злачыніцу яе ўласныя маці і сястра, якія, убачыўшы на ёй незнаёмыя залатыя ўпрыгожанні і прачытаўшы ў мясцовай прэсе пра жудаснае забойства, здагадаліся, чыіх гэта рук справа і заявілі ў міліцыю. Адбыўся суд. Забойцу і рабаўніцу прыгаварылі да 15 гадоў зняволення. Людзі, што прысутнічалі ў судовай зале, сустрэлі прысуд з абурэннем. Мала. Трэба было расстраляць.

Спецыялісты-псіхолагі адзначаюць зараз незвычайную лютасць нават законапаслухмянай часткі грамадства, для якой кожны, хто трапіў за краты, не варты ні жалю, ні спагады. Сёння, думаю, і Робін Гуда залічылі б у самыя небяспечныя злачынцы... Здзівіў днямі вядомы расійскі пісьменнік, аўтар цудоўнай аповесці "Начавала хмарка залатая..." Анатолій Прыстаўкін, дарэчы, член прэзідэнцкай камісіі па памілаванні. Ён, выступаючы па адным з каналаў маскоўскага тэлебачання, распавёў, як на яго дачным участку нейкі нягоднік наўмысна зламаў толькі што пасаджаныя маладыя дрэўцы... "Увидел бы, кто это сделал, — з гневам казаў вядомы літаратар, — ей Богу, растерзал бы на части". Словы гэтыя непрыемна ўразілі, хоць і падумалася: а хто з нас, апынуўшыся на яго месцы, абмежаваўся б толькі словамі: "Так нельга, Вася". Вось такія мы...

Сёння сотні падобных "Васяў", паводле прынятага Вярхоўным Саветам закона "Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія здзейснілі злачынствы", выходзяць на свабоду. Падзея, якая ў многіх, будзем шчырымі, выклікае дваякія пачуцці. Некаторым адразу згадваецца кінафільм "Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга" — пра напад шайкі бандытаў, выпушчаных з лагераў па берыеўскай амністыі 1953 года, на невялічкі паўночны пасёлак і крывавую драму, што разыгралася там. Згадаў я гэты фільм і падчас сустрэчы з начальнікам службы спецыліку і размеркавання Камітэта па выкананні пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі падпалкоўнікам Людмілай Гладкіх і намеснікам начальніка ўпраўлення па арганізацыі папраўчага працэсу гэтага камітэта, таксама падпалкоўнікам Вячаславам Шабанавым. Да месца будзе сказаць, што абодва яны мелі дачыненне да распрацоўкі Закона аб амністыі, а цяпер — да яго рэалізацыі. Дык вось, на маю згадку пра кінафільм, які яны абодва бачылі, мне было адразу заяўлена, што ніводны небяспечны злачынца на волю выпушчаны не будзе, што амністыя распаўсюджваецца толькі на асоб, якія здзейснілі злачынствы, што не ўяўляюць вялікай небяспекі для грамадства.

Дарэчы, паводле аповедаў маіх суразмоўцаў, зэкам у Беларусі пасля набыцця ёю незалежнасці не надта шанцавала на амністыі. Калі ў 1987 годзе ў тагачасным БССР падпала пад амністыю каля 17 тысяч асуджаных, дык у 1991 годзе выйшла на свабоду — усяго 153 чалавекі, а ў 1995 — 2 тысячы. Паводле апошняга закона аб амністыі на волю выйдзе недзе 6-7 тысяч чалавек.

І Л. Гладкіх, і В. Шабанаў у адзін голас гаварылі, што апошняя амністыя не мае аналагаў у СНД ды і былым СССР — калі не па колькасці амніставаных, дык па іх складзе. Да прыкладу, пад ранейшыя амністыі не траплялі асобы, асуджаныя за крадзёж маёмасці шляхам пранікнення ў памяшканне (кватэру, дачу, склад, установу і г.д.). Незалежна ад таго, колькі і чаго было ўкрадзена. Вячаслаў Барысавіч згадаў эпізод, калі чалавек у падпітку напярэдадні жаночага свята 8 Сакавіка залез у цяпліцу і зрэзаў 12 руж і 8 астраў, за што атрымаў 3 гады зняволення, хоць кошт крадзеных кветак адразу аплаціў. Яшчэ выпадак: чалавек атрымаў тры гады зняволення за крадзёж трох кілаграмаў ваты — акурат па годзе за кіло. Былі асуджаны да 3—5 гадоў за крадзёж меха бульбы, 5 курэй, слоіка варэння і да т.п. Раней артыкулы 87 (частка 3) і 141 (частка 3) Крымінальнага кодэкса рэспублікі, па якіх судзілі падобных злодзеяў, пад амністыю не падпадалі. Цяпер — падпалі, праўда, пры ўмове, што асуджаныя выплацілі матэрыяльны ўрон і адбылі не менш адной трэці тэрміну зняволення.

ФАКТЫЧНА, аўтары Закона аб амністыі зрабілі спробу выправіць некаторыя, мякка кажучы, хібы, недакладнасці прынятага яшчэ ў 1961 годзе і дзеючых па сённяшні дзень Крымінальнага і Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў, многія артыкулы якіх зжылі сябе, па сённяшніх жыццёвых рэаліях уяўляюць сабой чысты нонсенс, пярэчаць элементарнай логіцы. Ну, сапраўды, якая логіка — трымаць тры гады ў зняволенні таго злодзея кветак, калі ўтрыманне ў калоніі аднаго зэка абыходзіцца дзяржаве амаль у паўтара мільёна рублёў у месяц? А ўсё гэта — грошы з нашай з вамі кішэні...

І ўсё-такі, сказаўшы "А", складальнікі Закона аб амністыі пабаяліся сказаць "Б". Аказваецца, чалавек, які, скажам, на рынку сцягнуў у цёткі кавалак сала ці піражок з латка і асуджаны за гэта, пад цяперашнюю амністыю не падпадае. Мае суразмоўцы растлумачылі мне, што такі крадзёж кваліфікуецца адпаведным артыкулам КК як рабаўніцтва, разбой, а гэта ўжо лічыцца цяжкім злачынствам. "Разумееце, злачынца на падсвядомым узроўні ўвогуле быў настроены на крадзёж, падвёў пад падобны факт навуковую базу В. Шабанаў (дарэчы, кандыдат юрыдычных навук), — і калі б на месцы піражка ляжаў мільён рублёў, то, не вагаючыся, забраў бы мільён". Што ж, можна тлумачыць і так. Рабілі ж пры Сталіне "ворагаў народа" з падлеткаў, што адважваліся збіраць пасля жніва на калгасным полі каласкі. І давалі ім за гэта па 10 гадоў зняволення, і многія лічылі, што так ім і трэба, няхай не падрываюць эканамічную магутнасць краіны.

Але, увогуле, абодва мае суразмоўцы лічаць, што ў многіх крымінагенных выпадках можна было б абысціся проста штрафам, не прыбягаючы да зняволення вінаватых. Заплаціў за кожную ўкрадзеную курыцу, да прыкладу, па паўмільёна, і ідзі на ўсе чатыры бакі.

Дарэчы, размовы аб прыняцці новага Крымінальнага і Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў вядуцца даўно. Помню, у час гутаркі з першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Суда В. Кандрацьевым, а было гэта больш як год назад, ён казаў мне, што праект закона аб новым КК і КПК даўно падрыхтаваны і Вярхоўнаму Савету новага, 13 склікання застаецца яго толькі прыняць. На жаль, так склалася, што да разгляду пытанняў так званай прававой групы парламент змог звярнуцца толькі ці не ў апошні дзень свайго існавання. І быў гэта Закон аб амністыі. Я быў на тым пасяджэнні і помню, з якім імпэтам, зацікаўленасцю дэпутаты абмяркоўвалі гэты дакумент.

Людміла ж Міхайлаўна лічыць, што было тое абмеркаванне ў парламенце не вельмі плённым, бо мо з-за спешкі некаторыя папраўкі ў закон, прапанаваныя дэпутатамі, прымаліся "з голасу", былі не вельмі прадуманыя і абгрунтаваныя. Ім, выканаўцам, дадало гэта дадатковага галаўнога болю. У якасці прыкладу Л. Гладкіх прывяла папраўку шэрагу парламентарыяў, паводле якой значна пашыраўся кантынгент жанчын, што падпадаюць пад Закон аб амністыі. Калі ў праекце закона было запісана, што амністыя распаўсюджваецца на цяжарных жанчын, а таксама жанчын, што маюць на выхаванні дзяцей да трохгадовага ўзросту, але не здзейснілі цяжкіх злачынстваў, дык сердабольныя дэпутаты дадалі да іх і прадстаўніц цудоўнага полу, за якімі лічыцца і разбой, і рабаўніцтва, і махлярства, і валютныя аперацыі, і іншыя цяжкія злачынствы.Тое самае адбылося з амніставаннем адзінокіх мужчын, якія маюць на ўтрыманні непаўналетніх дзяцей ці дзяцей-інвалідаў. "Цяпер перад намі паўстала задача, — кажа Людміла Міхайлаўна, — праводзіць расследаванні на прадмет выяўлення сапраўднага сямейнага становішча гэтай катэгорыі зняволеных, ці сапраўды яны былі адзінокія і самі выхоўвалі дзяцей, ці былі іх жонкі пазбаўлены бацькоўскіх правоў і г.д. Так што да Закона аб амністыі давялося дадаваць яшчэ і пэўныя тлумачэнні і інструкцыі. Праўда, што да адзінокіх мужчын, дык пад амністыю падпадаюць толькі тыя, за кім не лічыцца цяжкіх злачынстваў".



Асабліва задаволена мая суразмоўніца (жанчына ёсць жанчына) тым, што на свабоду зараз выйдзе шмат непаўналетніх — да 18 гадоў — вязняў. Гэта тыя, што былі асуджаны на тэрмін да трох гадоў уключна і якія раней не адбывалі пакарання ў папраўча-працоўных калоніях, а таксама падлеткі, асуджаныя на тэрмін звыш трох, але не больш чым на пяць гадоў уключна, калі яны адбылі не менш адной трэці прызначанага тэрміну пакарання.

Я СЛУХАЮ Людмілу Міхайлаўну, і мне згадваецца паездка ў Бабруйскую дзіцячую выхаваўча-працоўную калонію гады са два назад. Помню, як вадзіў мяне па атрадах, казармах намеснік начальніка калоніі па выхаваўчай рабоце, знаёміў з малалетнімі злачынцамі. Да некаторых гэтае вызначэнне ну ніяк не падыходзіла. Стаіць перад табой хлапчанё з тонкай шыйкай і бледным да сінечы тварыкам і спалохана лыпае вачыма. За што пасадзілі? Тыповыя гісторыі — з таварышамі абакраў кіёск, з машыны выцягнулі радыёпрыёмнік, нейкія яшчэ рэчы. Праўда, былі і хлопцы, на тварах якіх ляжала пячатка гэткай бываласці. Некаторым, па іх прызнанні, вельмі падабалася "воровская романтика". У адміністрацыі калоніі мне расказалі пра аднаго з тутэйшых "выхаванцаў", 17-гадовага хлопца, які падаў ужо некалькі рапартаў аб пераводзе ў калонію для дарослых, бо з малалеткамі яму тут нецікава...

Запомнілася гутарка з урачом-псіхолагам, які працуе ў калоніі. Сумным быў яго аповед. Пераважная большасць асуджаных падлеткаў — з так званых няпоўных сем'яў, раслі без бацькі. Але найбольш уразіла тое, што палова іх — разумова адсталыя, дэбілы, алігафрэны і да т.п.

Большасць падлеткаў, пра якіх я згадваю, зараз выйдуць на свабоду. Што іх там чакае? Праўда, артыкул 26 Закона аб амністыі прапануе "мясцовым выканаўчым і распарадчым органам прыняць меры па своечасовым узяцці на ўлік вызваленых ад пакарання непаўналетніх пасля прыбыцця іх на месца жыхарства, іх працаўладкаванні або перадачы пад кантроль бацькоў, органаў апякунства і папячыцельства, змяшчэнні ў неабходных выпадках у дзіцячыя дамы, уладкаванні ў школы-інтэрнаты, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, па правядзенні сярод гэтых асоб выхаваўчай работы, недапушчэнні здзяйснення імі новых злачынстваў". Не трэба быць вялікім правідцам, каб зразумець, што ўсе гэтыя "благие" пажаданні такімі і застануцца. Пустыя, неабавязковыя фразы. Скажам, тая ж перадача пад "кантроль бацькоў" (Чаму, спытаем, і не было, калі любімае "чада" станавілася на шлях злачынства? Што ж датычыць "правядзення выхаваўчай работы сярод вызваленых падлеткаў", дык яны "аб'еліся" ёю ў калоніі. Адным словам, усё гэта пустыя дэкларацыі, пазбаўленыя канкрэтнага зместу. Зрэшты, і Людміла Міхайлаўна прызналася, што падобныя артыкулы — абавязковы дзяжурны атрыбут кожнага Закона аб амністыі. Яна ўпэўнена, што не паспее скончыць паўгадавы тэрмін рэалізацыі Закона аб амністыі (са снежня 1996 па май 1997 года), як частка амніставаных зноў трапяць на турэмныя нары. На новае злачынства іх падштурхне немагчымасць працаўладкавацца (на прадпрыемствах вельмі неахвотна бяруць на працу ўчарашніх зэкаў), ды і месцаў няма, сваіх рабочых даводзіцца скарачаць). І яшчэ адна праблема паўстае перад многімі амніставанымі — дзе жыць. Паводле існуючага заканадаўства, асуджаныя пазбаўляюцца права на жыллё, якое яны займалі да арышту. Людміла Міхайлаўна лічыць гэта ненармальным. "У гомельскай папраўча-працоўнай калоніі, — распавядала яна, — мне давялося сустрэцца з цэлай сям'ёй, якая складалася з мужа, жонкі, іх дачкі і бабулі. Асуджаны яны былі за крадзёж і цяпер былі пазбаўлены права на кватэру, дзе да арышту жылі разам. Некалі яны выйдуць на свабоду, а — дзе жыць, дзе шукаць дах над галавой?"

Праўда, другі мой суразмоўца Вячаслаў Шабанаў, кранаючы гэтыя праблемы, быў настроены больш аптымістычна. Па яго словах, і сам міністр, і яго намеснік, ён жа начальнік Камітэта па выкананні прысудаў, настроены вельмі рашуча і будуць умешвацца ў кожны выпадак невыканання Закона аб амністыі, і асабліва ў той яго часткі, дзе гаворыцца пра адаптацыю амніставаных на волі. Ну, што ж, калі сам міністр за гэта бярэцца... Але і Вячаслаў Барысавіч лічыць, што многія з тых, хто выходзіць з месцаў зняволення (не толькі па амністыі, проста па адбыцці тэрміну), трапляюць у жорсткія жорны жыцця і не кожнаму дадзена справіцца з гэтымі выпрабаваннямі. Ён расказаў аб адным са сваіх падапечных у Магілёўскай папраўча-працоўнай калоніі, дзе папрацаваў шмат гадоў, якому, пасля выхаду адбыцця тэрміну, міліцыя адмаўляла ў выдачы пашпарта, бо ён нідзе не быў прапісаны (у калонію трапіў ён з дзіцячага дома), а без пашпарта былы зэк не мог не толькі што ўладкавацца на працу, а нават

*(Працяг на стар. 12)*

# Дзядзька Рыгор — чалавек-легенда

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы працягваецца цыкл вечарын "З Купалам у сэрцы", што ладзяцца ў гонар выдатных, таленавітых сыноў і дачок Беларусі.**



У студзені адбылася вечарына, прысвечаная 105-годдзю з дня нараджэння патрыярха беларускай музыкі, руплівага фалькларыста-збіральніка, выдатнага майстра харавога мастацтва, заснавальніка, мастацкага кіраўніка і дырыжора Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы, слыннага педагога Рыгора Раманавіча Шырмы.

Песня стала спадарожніцай усяго жыцця Рыгора Раманавіча. Ён абышоў і аб'ехаў амаль усю Беларусь, запісаў больш як 2 тысячы песень, якія ўвашлі ў чатырохтомнік "Беларускія народныя песні". Не менш важным, чым збіранне і апрацоўка народнай песні, лічыў слынны майстра яе распаўсюджванне, знаёмства з ёю шырокага кола слухачоў. Заснаваная ім харавая капэла падняла беларускую песню да ўсесаюзных вяршынь. Яна стала знаёма слухачу і за мяжою.

Рыгор Раманавіч не быў асабіста знаёмы з Янкам Купалам. Але купалаўская творчасць прайшла праз усё яго свядомае жыццё. Неаднаразова Шырма выкарыстоўваў купалаўскія радкі ў якасці загалоўкаў і эпіграфаў сваіх публіцыстычных артыкулаў, цытаваў у іх творы паэта. Таленавіты музыкант разглядаў паэзію Янкі Купалы, як сімвал нацыянальнага Адраджэння. Створаныя ім беларускія хоры ў Вільні пастаянна мелі ў рэпертуары творы Янкі Купалы.

Рыгора Раманавіча любілі і паважалі ўсе, хто працаваў побач з ім, і называлі няйнакш як — дзядзька Рыгор. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч прысвяціў яму такія радкі:

*Колькі птахаў пявучых у родных лясах,*
*Колькі нот непаўторных у іх галасах,*
*Колькі тонаў, адценняў, ладоў, пераборах —*
*Столькі песень у сэрцы ў дзядзькі Рыгора.*



Пра гэтае і многае іншае, што было жыццём і творчасцю мастака музыкі, гаварылі многія выступоўцы: народны паэт Беларусі Янка Брыль, кампазітар Віктар Войцік, музыказнавец Вера Сізко.

У мерапрыемстве прымалі ўдзел і дзіцячыя калектывы: хор "Ветрык" школы мастацтваў г. Мінска, хор "Сакавік" і ансамбль "Ручаёк" Каралёвастанскай базавай школы, мастацкі кіраўнік — Вера Дабравольская.

Да юбілейнай вечарыны была падрыхтавана выстава "Песня — душа народа", па назве аднайменнага зборніка публіцыстычных артыкулаў Рыгора Шырмы. Прадстаўленыя на выставе экспанаты — своеасаблівы летапіс жыцця. Матэрыялы да выставы выкарыстаны з фондаў музея-архіва літаратуры і мастацтва, фондаў музея Янкі Купалы, з асабістых калекцый пісьменніка Сяргея Панізніка і музыказнаўцы Веры Сізко.

**Сняжана ЖАЎНЕРЫК,**
**навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

*На здымках: выступае народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Сядзяць кампазітар Віктар Войцік і музыказнавец Вера Сізко; выстава, прысвечаная юбілею Р. Шырмы.*

*Фота В. ЗАХАРАВА*

ПАЭЗІЯ

## Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



# "Удзячна дню, пражытаму не марна..."

●

*Удзячна дню,*
*пражытаму не марна.*
*Я ветла азірнуся*
*ўслед яму.*
*І хай вакол то сонечна,*
*то хмарна —*
*Усё прыму,*
*усё як ёсць прыму.*
*Нечакананы дар*
*і пакаранне,*
*Навуку, што падчас*
*здаецца злой.*
*Само сабой складаецца*
*літанне —*
*Як гэты вершык*
*праставаты мой.*
*Куды адно дзяецца*
*тая стома!*
*Я новая*
*прад яваю вясны.*
*І што такое вернасць,*
*мне вядома.*
*А здрады?*
*Гэта дзеці даўніны.*

●

*Як бляшанае, лісце грыміць,*
*Разагнанае ветрам сцюдзёным.*
*Агалелі каштаны і клёны —*
*Адступлення свята*
*не спыніць.*

*Завяршаецца кругазварот*
*(З-за прыроды мы ўсе фаталісты).*
*Свет упаў,*
*расколўся*
*і выстыў,*
*Як карычневы глянцавы плод.*

*Дзе ні йду, я заўжды падніму*
*Найпрыгожшага дрэва насенне,*
*Што пужліва сцінаецца ў жмені,*
*Прадчуваючы злую зіму...*

## Равесніца

Прысвячаецца Н. Ч.

*Равесніца,*
*ты для мяне люстэрка.*
*Ўзіраюся з уважлівасцю дзіўнай,*
*І кожненькая рысачка на твары*
*Дрыготка адгукаецца ўва мне.*

*Было б прасцей,*
*калі б душа старэла*
*З яе часовай знешняй абалонкай.*
*Гармоніі паболела б у свеце,*
*Паменела б няшчасных, далібог.*

*Ягчэ ў вачах паблісквае агеньчык,*
*І пругкасці не страціла паходка,*
*І столькі спраў*
*за дзень ты пераробіш,*
*Што вечарам не верыцца самой.*

*Уночы прыйдзе першы*
*сумны веснік —*
*Бяссонніца.*
*Ты доўга гаварыцьмеш*
*Пра клопаты бясконцыя ды спрэчкі,*
*Пра нешанцунак. (З ёю ці з сабой?)*

*Пра ўсё, пра ўсё...*
*(Трымціць струною цемра.)*
*Ды ёсць адно,*
*пра што ты не раскажаш*
*І што змушае часам азірацца*
*На вуліцы унураных мужчын.*
*Равесніца!*
*Дагэтуль прага шчасця*
*Жыве ў табе,*
*і ты прыняць не можаш*
*Таго бесчалавечнага закона,*
*Якому падлягае чалавек...*

## Трыпціх памяці

Прывыкаю крычаць без голасу,
Прывыкаю плакаць без слёз.
Тамара ЧАБАН

I.

*Сяброўкаю*
*ты стала мне тады,*
*Калі ўжо смерць*
*сваё сіло звівала,*
*Падглядвала зларадна, цікавала,*
*І ты жыла з прадбачаннем бяды.*

*Смяшлівая, прыхоўвала тугу*
*Па тым,*
*з чым развітацца давядзецца.*
*І як відушчае тваё*
*балела сэрца,*
*Таго і уявіць я не магу...*

II.

*Не напішу я успамінаў:*
*Такія плыткія карціны...*

*Вось мы на Іслачы, у лесе,*
*І дым кастра у вочы лезе.*
*Вось мы ў бясэдзе таварыскай,*
*Вось ты над Вольчынай калыскай...*

*Як вобраз выплыве паволі*
*З туману памяці і болю,*
*Ты ўсё гамоніш там — жывая,*
*Ды ні пра што я не пытаю.*

III.

*Памятайце усіх,*
*хто заўчасна аціх,*
*Хто навек пасяліўся ў нябыце.*
*Памятайце усіх,*
*памінайце усіх,*
*Толькі лепшых*
*ящчэ і любіце.*

●

*Мы — паралельныя,*
*горнія светы.*
*Вы нам браты,*
*аднагодкі-паэты.*
*Розныя ў нас*
*атачэнні і беды,*
*Ды ёсць і агульныя ўсё-ткі*
*прыкметы.*
*Вершам не скажаш іх*
*(мабыць, і прозай).*
*Звязаны снопікам*
*нашыя лёсы,*
*І покуль не ўпалі*
*у глебу зярняты,*
*Ўшануем сястру*
*і даверымся брату.*

## Маятнік

*У маятніка звыклая хада —*
*Ад крайнасці да крайнасці,*
*ад кропкі*
*Вышэйшае,*
*дзе ўсё відно далёка,*
*Да зрыву непазбежнага (бяда!).*

*А потым зноў няўхільна на пад'ём,*
*Як выдых і удых,*
*арол і рэшка.*
*Матляцца так —*
*ці ж гэта не насмешка*
*І чорнай ноччу,*
*і яснюткім днём?..*

*Няўжо ж ты*
*не стаміўся, адкажы?*
*Прыслужваць часу —*
*клопатны занятак.*
*Навошта рух і намаганняў трата,*
*Калі няма разумнае душы?*

## Цвыркун у лазні

*Цвыркун у лазні за шалёўкай*
*Па-цвыркуноваму галёкаў.*

*Сяброўку клікаў ён, бядак,*
*Ды не дакліцкаца ніяк.*

*Чужыя голыя стварэнні*
*Зрабілі спёку ў сутарэнні.*

*Ну проста тропікі, экватар!*
*І ён, цвыркун, спявак-аматар,*

*Расстракатаўся у лагодзе,*
*Нібыта ў лузе пры пагодзе.*

*А на двары і золь, і сцюжа...*
*Жыццё — адзін падман,*
*мой дружа...*

## Іранічнае

*Трэба йсці, мяне чакаюць дома.*
*Гэта цень самоты, а не стома.*
*Што "градзёт", нікому невядома.*
*Ад зялёных яблыкаў — аскома.*

*Перастаньце! Я ўжо не малая.*
*Тактыка знаёмая такая...*
*Некалі казалі: гонар маю.*
*Лічыце, задоўга выспяваю?*

*І застой, і плесня,*
*там, дзе схемы.*
*У людзей іначшыя праблемы.*
*У віры матляемся усе мы.*
*Справы дрэнь...*
*Падводзяць тэарэмы.*

*Як іх штампавалі год ад году!*
*Сапсавалі гэтулькі народу,*
*А вы мне тут —*
*пра камерную згоду...*
*Пра сябе і думаць неахвота.*

## Амаль жарт

У. Н.

*Святкуючы сваё зямное лета,*
*Я неяк жартам*
*рысу падвяла:*
*Не давялося мне кахаць паэта*
*(Хіба што закаханаю была).*

*А хто займеў*
*такую вось удачу —*
*Намэнчыліся, кажуць.*
*Бо для тых*
*Мы толькі сыравіна, не інакш,*
*Для новых вершаў, і паэм, і кніг.*

*Дый мы таксама рады*
*ўсё на свеце*
*Ў паэзію цягнуць, нібыта ў кош.*
*Не па адным не сохла я паэце.*
*Бяды няма.*
*І ўсё ж...*



*Лінагравюра В. Ткачука "Першы снег" з серыі "Мікалаеўшчына".*

ПРОЗА

# НАШЫХ ДЗЁН КРЫТАХОД

Ірына ЖАРНАСЕК



## Дотык рукі

ЧАСТА бачыла адзін і той жа сон: я прыціскаю сваю шчаку да шырокай цёплай рукі і шапчу: "Брат мой! Нарэшце я знайшла цябе, мой брат!"

Усё сваё жыццё я чула душою, што была б нашмат шчаслівейшаю, калі б мой брат не памёр.

Ён, самы старэйшы ў нашай сям'і, памёр у росквіце сваёй маладосці.

Я, самая малодшая, асірацела, страціўшы яго, у сваім дзяцінстве, якое пасля хаўтур адразу падрасло, пасур'ёзнела, пасуровела.

Ён быў старэйшы за мяне на адно юнацтва. Але мне часам здаецца, што калі б ён быў старэйшы і на два, і на тры юнацтвы, ён усё адно разумеў бы мяне.

Памятаю, як ён паміраў. Яго прывезлі на старшынёўскай "Волзе" з Полацка. Паміраць. Надзеі больш не было. Праўда, мы таго не ведалі. Гэта ведаў адзін тата, але ён не змог адабраць у нас апошняе надзеі. І мы спадзяваліся...

Калі брата неслі з "Волгі" ў хату, мне здалося, што некалькі кропель расы з папіроўкі капнула на ягоны твар. Тая папіроўка яшчэ і цяпер стаіць перад ганкам бацькоўскае хаты. А, можа, гэта я пасля прыдумала — пра тую расу з папіроўкі? Можа, мне праз гады гэтак хацелася аблегчыць ягоныя пакуты і спрыснуць братаў твар гаючай расой з яблыні?

Яго паклалі на ложак. Ён сказаў: "Пазавіце маму". Нас было шмат у пакоі, ён не заўважыў нас — паклікаў яе.

Яна стаяла на кухні, прыціснуўшыся лбом да печы, і душылася слязьмі. Але ён сказаў: "Пазавіце маму". Выцерла твар, высушыла яго для сына, пайшла і схілілася над ім. Ён пацалаваў маміну руку, прыціснуўся да яе шчакой...

Зусім, як я прыціскаюся ў сне сваёй шчакою да тае рукі, пададзенай мне немаведама з якой далечы.

Усе гэтыя гады мне не ставала ў жыцці брата.

Усе гэтыя гады разам з кветкамі з нашага кветніка я прыносіла на ягоную магілу сваю адзіноту. Пераносіла яе: ад хаты — на могілкі, з майго зямнога жыцця — да прыстанку ягонае вечнасці. Але калі сядала на ровар і ад'язджала з могілак, мая адзінота лоўка прымошчвалася на багажнік, каб потым, калі спыню ровар каля хаты, порстка саскочыць з яго і наноў агарнуць мае плечы. Яна ўпарта не жадала перасяляцца да майго брата, застацца там, на могілках.

Усе гэтыя гады я зайздросціла тым, у каго ёсць брат. Усе гэтыя гады я шукала брата сярод жывых. Ведала: яго немагчыма замяніць. Я прагнула не замены, але яго самога — брата. Адзінага.

Памятаю, калі мой брат ляжаў яшчэ не на могілках, а на ложку, я прынесла яму шклянку суніц, толькі што назбіраных на ўзмежку рова за нашай хатай, там, куды ён ужо не мог дайсці. Як ён заўсміхаўся тым суніцам і мне!..

Мне ўсё жыццё не ставала чалавека, якому б я прынесла суніцы, а ўзамен атрымала гэткую ўсмешку. Пакутнаўдзячную. Блізкую. Родную.

Мне не ставала ў жыцці брата.

На хаўтурах пачула размову дзяўчат, ягоных равесніц. Адна з іх казала: "Я ведала, што ён памрэ. Колькі дзён таму бачыла ў сне ягоныя рукі на небе — худыя, высахлыя, з доўгімі тонкімі пальцамі, а на іхніх канцах — зорачкі..."

Часта потым я марна спадзявалася адшукаць на небе сузор'е братавых рук. Доўга я не магла зразумець, што дзеля гэтага, відаць, трэба самой ператварыцца ў сузор'е.

Братава рука, якая неспадзявана прыйшла ў мае сны, упершыню адсунула ўбок маю адзіноту і ўпершыню вярнула надзею на братняе разуменне. Нараніцы я прачыналася амаль шчасліваю, яшчэ чуючы на шчацэ дотык спагаднай далоні. Сярод дзённага тлуму, на мітуслівай вуліцы, у гаманліва-сварлівым натоўпе я раптоўна чула на сабе дотык, які ратаваў і ад мітусні, і ад сварак, і ад тлуму — ад усяго, што гэтак балюча раніць сэрца. Я чула ягоны дотык! Напэўна, тады на маім твары было гэткае ж пакутлівае і яснае шчасце, як і на ягоным, калі я прынесла яму суніцы...

Сны прамінуліся...

Кожнага вечара, кладучыся спаць, я спадзяюся адчуць гэты дотык на сваёй шчацэ. Прачынаюся сярод ночы, слухаю начную цямрэчу, чую, як напята звініць ціша, чую, як спіць свет, раўнадушны да маёй надзеі знайсці нарэшце брата. Сярод жывых. Не замену. Не двайніка. Яго самога.

Надзея памерла.

Браты нараджаюцца аднойчы.

Каб ніколі не паўтарыцца.

Толькі памерці яны могуць двойчы.

## Лаванда

Яна з'явілася ў маім доме ў тыя дні, калі немажлівасць, нежаданне бачыць больш чалавечыя твары на вуліцах горада загналі мяне майскімі сонечнымі днямі на некалькі дзён у кватэру.

Балела галава. Балела сэрца. Балела душа.

Лаванду прывезлі ў мой дом, каб яна сваім пахам лячыла маю галаву, якая занадта часта баліць. Людзі кажуць, баліць без дай прычыны.

Прывезлі ажно з Малдовы.

Напачатку яна, пакрыўшыся кропелькамі поту, колькі дзён марнела на балконе ў поліэтыленавым меху. І не магла, мабыць, зразумець, чаму яе, якая прыехала ратаваць маю бедную галаву, усё яшчэ трымаюць у жорсткай няволі. Чаму яе, апетую галасістай пявунняй на ўвесь свет, сустрэлі тут не як прынцэсу, а як папялушку.

Я ж у гэты час мітусілася па кватэры: уключала радыё, тэлевізар і зноў безнадзейна ціскала на кнопкі, не маючы сілы чуць тое, што адтуль неслася.

Лаванда марнела і зусім не разумела гэткай негасціннасці. Нарэшце я выйшла на балкон, каб узяць там колькі бульбін і зварыць іх дзецям. Бо нават у часе ўсялякіх крушэнняў, патопаў, рэферэндумаў чалавеку, на жаль, уласціва хацець есці.

Пад нагамі стаяў белы мех, знутры пакрыты дробнымі белымі кропелькамі, з-за якіх слаба прасвечвалася шэразялёная лістота. І так захацелася паверыць, што лаванда плача разам са мной!.. Не ад маёй жорсткасці, а шкадуючы мяне, бо ад гора і роспачы я зрабілася жорсткаю да яе.

Так мы пазнаёміліся. Удзячная за спагаду, вызваліла дрэўца з пасткі і доўга ўзіралася ў яго, удыхаючы незнаёмы водар далёкай горнай Малдовы. Няўжо ты можаш аблегчыць мой боль? Ні наш чабор, ні святаяннік, ні палын не змаглі гэтага зрабіць. А ты? Змучаная лаванда асцярожліва ўдыхала незнаёмае паветра, не ведаючы, што яно прынясе ёй — жыццё альбо загубу.

"Ты пажыві, — папрасіла я. — Пажыві ў нас. Тут не такое чыстае, як у вас, паветра. Тут цяжка дыхаецца. Часам тут немагчыма дыхаць. Але мы жывём. Мы звыкліся з гэтай задухай. Нават калі некаторыя з нас не вытрымліваюць і, пераможаныя, ціха адыходзяць, мы працягваем тут жыць. Нам няма больш дзе жыць. Няма на свеце зямлі, якая прыняла б нашае карэнне і дала яму жыццё. Мы вымушаныя быць тут. Пакуль не памром. Усе. Да апошняга, каму гэтак жа, як і мне, цяжка дыхаецца тут. Даруй мне, лаванда, маю мару — хоць трохі аблегчыць мой боль. Калі б не гэтая мара, ты й сёння вольна дыхала б у сваёй Малдове".

Лаванда слухае мой няўцямны маналог, маю незразумелую сваёй часовасцю просьбу: "Ты пажыві ў нас" і, вядома ж, не разумее той надзеі, якую я ў адчаі ўскладаю на яе.

"Не сумуй у нас, лаванда", — ціха прашу сваю госцю, і гучыць гэта як просьба: "Даруй мне, што ты — тут".

## Катынь

У гэтай кнігі старонкі сатлелі ад часу. Яны закругліліся і зрабіліся гэткія тонкія, што перагортваць іх трэба дзвюма рукамі, падтрымліваючы пальцамі зверху і знізу...

Кніга прыйшла на мой стол не з такой ужо і далёкай далечы — з 1943 года. Прынамсі, дваццатае стагоддзе... Але выгляд яна мае страшны, нібы сваім выглядам пацвярджаючы свой страшны змест. Са свайго 43-га ў мой 96-ы яна прайшла нялёгкі шлях: праз цемру, цвіль, холад, страх. Дый ці мог быць шчаслівы лёс у кнігі з кароткай назвай "Катынь"?

Доўга яна праляжала на гарышчы майго земляка. Ён збярог яе, рызыкуючы... Чым рызыкаваў ён? Жыццём? Вольнай воляй? Сваім хутарам, з якога адкрываюцца такія прыгожыя ды шырокія далягляды? Калі б гэтая кніга трапіла ў рукі пільных людзей, перад ягонымі вачыма былі б не блакітназялёныя далягляды, а калючы дрот. Мой зямляк ведаў гэта. Таму кніга і ляжала на гарышчы. Таму пра яе існаванне не ведалі не тое што суседзі, сваякі, а нават і жонка.

Кніга ацалела.

І прыйшла ў нашыя дні, каб дыхнуць на нас жудаснай трагедыяй і адначасна някідкай трываласцю такіх людзей, як мой зямляк. Ён не меў сваіх дзяцей. Не было, здаецца, нікога і з радні, хто б мог легчы ў тыя страшныя магілы. Што ж змусіла яго гэтак берагчы яе, чытаючы і перачытваючы? А кнігу чыталі. Бо калі б яна проста трухлела на гарышчы, у яе не закругліліся б гэтак старонкі, на іх, пажоўклых і змарнелых ад вільгаці, не засталося б адбіткаў пальцаў.

Перагортваю старонкі кнігі. Чытаю і не магу чытаць. Гляджу на жудасныя здымкі і не магу глядзець. Свежыя сляды чытання — круглыя цёмныя плямкі на старонках. Адхінаюся. Выціраю мокры твар. У мяне няма права псаваць кнігу, якую гадамі бераглі на гарышчы. Зрэшты, гэтая кніга, напэўна, мела шмат гэткіх плямак. Высахлі. Не пакінулі па сабе следу.

Перагортваю старонкі кнігі. Чарапы, чарапы, чарапы... Бачны маленькія дзірачкі ў іх. Зусім маленькія. Як і на тых здымках, з Курапатаў... А рукі звязаны вяроўкамі. Не такімі ўжо й тоўстымі. Разарваць гэткую вайскоўцу — што за праца? Ды рукі... Рукі ж былі звязаныя... Не разарвалі. Не абаранілі сябе. Леглі ў зямлю сыны Польшчы, нашы браты-славяне...

...Кроў брата твайго на руках тваіх...
Браты...
Людзі...
Каіны...

Перагортваю старонкі кнігі. Магілы, магілы, магілы. Палякі называюць іх масавымі, у нас жа ёсць тэрмін — "братнія". Гэтыя магілы як называць? Братнімі? Таму што браты забілі братоў?

...Кроў брата твайго на руках тваіх...
Браты...
Людзі...
Нелюдзі...

## Калі за кра́тамі — паэт

Адны крычаць:

— А не пісаў бы!

Другія галёкаюць:

— Не друкаваў бы!..

Трэція ашчэрваюцца:

— Каму патрэбны ён, той верш?

Ім усім неспакойна. Бо паэт усё ж напісаў той верш, і цяпер — за кратамі...

— А што ў тым вершы? — паціскаюць адны плячыма. — Там жа нічога такога надзвычайнага няма.

— Ён не дацягнуў свой верш да высокай паэзіі! — згаджаюцца другія.

— У яго ёсць нашмат лепшыя творы, — быццам бы літуюцца над паэтам трэція.

Ім усім няўтульна. Бо вось жа напісаны гэты незразумелы, дзіўны, нікому непатрэбны верш, і паэт цяпер — за кратамі. Пра што думае ён у вязніцы?

Што неба над Бацькаўшчынай гэткае ж сіняе?

Што буслы над ёй гэткія ж вольныя?

Што людзі ўсё гэтак жа снуюць па сваіх лабірынтах туды-сюды, не ведаючы, навошта?

Што сонца над Бацькаўшчынай гэткае ж высокае, яснае, недасягальнае?

І што ўлетку кожнага ранку — раса на траве, быццам слёзы, а ўзімку снег зямлю атуляе, быццам хоча сагрэць яе сваім холадам?

Што ўвесну ручаі бягуць вольныя?

І птушкі спяваюць, жыццё праслаўляючы?

І хтосьці зямлю засявае, каб зерне тое прарасло і жытам залацістым стала, хлебам духмяным стала, якога...

Што матчыны вочы выцвілі, бо хлеба на стол не можа падаць яна сыну?

Што ў кагосьці і цяпер ёсць аркуш чыстай паперы, аловак, і ў гэты самы час той "хтосьці" піша свае вершы?

Пра што думае ён?..

І пра што думаюць яны, трымаючы яго за кратамі? Пра тое, што ён небяспечны? Што паэты ўвогуле... І паэты, і музыканты... Бо вось цягне ж іх увесь час кудысьці... Пра тое, што абясшкоджаны адзін з іх? Альбо пра тое, якія яны смелыя, бо трымаюць ворага за кратамі? Не паверу, што ўсім ім спакойна, утульна і добра спіцца, бо яны трымаюць паэта за кратамі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі думаю пра тое, што вось у гэты самы час, у гэтую самую хвіліну, калі за акном гэтак прыгожа, проста з неба на зямлю падаюць нашыя слёзы, ператвораныя Спрадвечным у карункавыя сняжынкі, хтосьці з паэтаў за кратамі... Хіба можна пра нешта спакойна думаць, калі ведаеш: хтосьці з паэтаў цяпер за кратамі?!..

## Як вы маглі?

Пытаю ў іх:

— Вы з Богам?

Яны пакрыўдзіліся і загулі, як шэршні, занерваваліся: "Ну, вядома! А як жа! А з кім жа нам быць?"

— Але ж раней у вас запыталіся: "Ці забіваць?", і вы адказалі згодай. Вы адказалі: "Так! Забівай!" Дык... як жа?..

Яны зноў загулі нервова, са злосцю, але й прыкметна разгублена: "Ах, ты пра тое! Ці варта... Мы ж не ўсіх... Мы — асобных... Вінаватых... Злачынцаў... Нягодных..."

— Але ж права якое на тое ў вас? Бо сказана ж: "Не забі"!!!

На хвілю яны прымоўклі, вочы ўбок адвялі, апусцілі іх долу, а хтосьці й зусім заплюшчыў і вушы заткнуў — каб надзейна не чуць. Затым яны зноў пасмялелі, зноў загулі: "А мы тут пры чым? Якое пытанне — такі й адказ. Не трэба было пытаць. Вось!"

— Але ж вы маглі й не згадзіцца! — крычу ім у роспачы. — Альбо хоць бы прамаўчаць...

Мармычуць: "Ну як жа!.. Пытаюць... Як жа маўчаць?.."

— Але ж забіваць пасля будуць па вашым на тое дазволе!

І зноў мармытанне ў адказ: "Ну, не ўсіх жа... Кагосьці, можа, і не заб'юць... Мацнейшых, хітрэйшых, дужэйшых... Яны ж застануцца! І не звядзецца наш род — не бяду-у-уй! Гы-гы-гы..."

Не стае паветра ў грудзях, і я адно выціскаю праз боль:

— Як вы маглі — пайсці супраць Бога?!.

Ніякавата мычаць штосьці пад нос, і ўрэшце адзін выбухае: "Ты кажаш, што мы супраць Бога? А нашыя ж словы святар благаславіў!.."

Сказаў — і... забіў... сваімі словамі святара, таго самага, які блаславіў іхнюю нязгоду з Божым правам. Але святар быў далёка. Ён, мабыць, так і не зразумеў, што адбылося.

## І раманс, і арыя



**Сустрэча з высокім мастацтвам — заўсёды свята. І нядаўна адбылося яно ў Зале камернай музыкі. Аматары вакальнага мастацтва прыйшлі сюды на вечар класічнага рускага раманса. У праграме ўдзельнічалі маладыя спевакі — лаўрэат міжнародных конкурсаў Алег Гардынец (бас) і лаўрэат рэспубліканскіх конкурсаў Уладзімір Мароз (барытон). Ва ўтульнай зале з цудоўнай акустыкай прагучалі творы, якія слухаеш, перажываючы хвіліны ўзнёсласці і яднання з паэтычнымі і музычнымі вобразамі. І гэтаму спрыяла не толькі музыка, але і майстэрства выканаўцаў.**

**Імя спевака Алега Гардынца добра вядомае сталічным меламанам.**

**Ён з поспехам выконвае вядучыя партыі на опернай сцэне. Гэта сапраўдны майстар і ў камерным вакальным жанры. У той вечар у выкананні Алега Гардынца мы пачулі творы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, рускія народныя песні. Спявак арганічна спалучае пранікнёнае ў рамантычныя вобразы з тонкім адчуваннем характару музыкі, уражвае і майстэрства вакальнай інтэрпрэтацыі. Найбольш пранікнёна прагучала арыёза караля Рэнэ з оперы П. Чайкоўскага "Іяланта" і каваціна Алека з аднайменнай оперы С. Рахманінава.**

**Уладзімір Мароз, студэнт III курса Беларускай акадэміі музыкі, уладальнік прыгожага па тэмбры лірычнага барытона, неаднаразова выступаў на філарманічнай сцэне. Гэтым разам ён праспяваў рамансы і арыі з опер П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, А. Рубінштэйна. Прыемна адзначыць, што малады спявак змог знайсці інтанацыі і стыль, адпаведныя характару і настрою музыкі рускіх кампазітараў. І гэтаму ў значнай ступені паспрыяла высокапрафесійная вакальная школа. (Дарэчы, абодва выканаўцы — вучні народнага артыста Беларусі прафесара Анатоля Генералава).**

**Вартае ўвагі майстэрства і дыпламанта міжнародных конкурсаў канцэртмайстра Мікалая Сярдобава. У ансамблі са спевакамі — узаемаразуменне, адчуванне характару выконваемых твораў.**

**Публіка пакідала канцэртную залу з пачуццём удзячнасці выканаўцам і з надзеяй на далейшыя сустрэчы.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

*На здымку: лаўрэат міжнародных конкурсаў Алег ГАРДЫНЕЦ.*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

## Ой, "Марозка"! Смех і слёзкі...

**Да зімовага сезона прымеркавалі сваю чарговую прэм'еру берасцейскія лялечнікі: зладзіўшы дзею "Марозка" паводле п'есы М. Шурынавай. Рэжысёр-пастаноўшчык Зміцер Нуянзін сваё бачанне агульнавядомага сюжэта наблізіў да народнага тэатра: казку прадстаўляюць ды распавядаюць Каляднікі, якія не толькі пераўвасабляюцца ў казачных ды камічных персанажаў, але яшчэ і жартаўліва бадзяюцца адзін за адным... Досыць удала дэбютавалі ў спектаклі пінская мастачка Ірэна Харашаўцава ды кампазітар Анатоль Мядзведзеў. Работа Алены Паляшэнкі, Тамары Тэвасян, Лідзіі Воўчанкі, Ігара Версты ды Анатоля Мацвеева заслугоўвае асобнай падзякі. Харэограф — Людміла Зяленіна.**

**І. Х.**

ВІНШУЕМ!

# Герману Кірылаву — 60

Герман Кірылаў родам з г. п. Шаркоўшчына Віцебскай вобласці, дзе нарадзіўся 8 лютага 1937 года. У 1954 годзе скончыў Шаркоўшчынскую сярэднюю школу і паступіў на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пасля заканчэння якога працаваў літработнікам шаркоўшчынскай раённай газеты "Калгасны шлях". У 1960 годзе быў выбраны другім, праз год — першым сакратаром Шаркоўшчынскага райкома камсамола. У 1962 годзе, калі быў скасаваны Шаркоўшчынскі раён, Г. Кірылаў вярнуўся на журналісцкую працу, стаў загадчыкам аддзела пісем рэдакцыі мёрскай міжраённай газеты "Сцяг працы" (1962—1965), затым быў намеснікам рэдактара гэтай газеты, намеснікам рэдактара полацкай газеты "Сцяг камунізму" (1965—1976). З 1976 года — уласны карэспандэнт абласной газеты "Віцебскі рабочы" ў Полацку.

У 1974 годзе выступіў у часопісе "Маладосць" з апавяданнем "Без крыўды ў сэрцы", а дагэтуль друкаваўся як журналіст. Першая кніга Г. Кірылава — зборнік апавяданняў "Падлётак" — выйшла ў 1983 годзе. Аўтар аповесці "Сонца тваіх вачэй", рамана "Пах жыта", п'есы "У ноч напрадвесні", шэрагу нарысаў, рэцэнзій, гумарэсак.

Віншуем Германа Іларыёнавіча з 60-годдзем, жадаем яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!



# Міхасю Кеньку — 50

Нарадзіўся Міхась Кенька 8 лютага 1947 года ў вёсцы Верацеі Пастаўскага раёна. У 1965 годзе пасля заканчэння Ласіцкай адзінаццацігадовай школы паступіў на філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. З 1969 года працаваў у кіраўскай раённай газеце "Кіравец", настаўнічаў ва Удзелаўскай сярэдняй школе Глыбоцкага раёна, быў лектарам, загадваў кабінетам камсамольскай работы ў Віцебскім абкоме камсамола. З 1973 года — аспірант, з 1976-га — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, з 1983 года — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва "Юнацтва". У 1988 годзе М. Кенька перайшоў на педагагічную працу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

З рэцэнзіямі і артыкуламі па тэорыі і практыцы мастацкага перакладу, праблемах беларускай савецкай прозы і паэзіі пачаў выступаць у рэспубліканскім друку з 1974 года. Аўтар кніг "Майстэрства Аркадзя Куляшова-перакладчыка" (1983), "Міхась Лынькоў. Летапіс жыцця і творчасці" (1987)... Прымаў удзел у падрыхтоўцы Збору твораў М. Лынькова і М. Гарэцкага. Перакладае з рускай, украінскай і польскай моў.

З поўднем веку, шаноўны Міхась Паўлавіч! Далейшых Вам жыццёвых і творчых поспехаў!



ПОШТА

# Два помнікі

За 13 кіламетраў ад Скідзеля ёсць невялічкая лясная вёсачка Полымя, у якой усяго тры хаты. Да вайны яна насіла назву Дземша. І 35 жыхароў гэтай вёскі з 42 мелі прозвішча Дземша. У ліпені сорак трэцяга года фашысты знішчылі вёску — 39 жыхароў расстралялі, а хаты спалілі. Калі пасля вайны аднавілася вёска ўсяго з трох хат, далі ёй назву Полымя. Трое жыхароў ацалела таму, што ў той трагічны дзень не былі ў вёсцы. Напрыклад, Аляксандр Юльянавіч Дземша працаваў у лесе. Дамоў не вярнуўся, а застаўся начаваць у цешчы, якая жыла ў вёсцы Дубінка. Аляксандра Рамановіч была вывезена на прымусовыя работы ў Германію, а Аляксей Дземша знаходзіўся ў арміі. З іх і склалася пасля вайны вёска з трох хат.

У гонар загінуўшых жыхароў Дземшы знакаміты паэт Гродзеншчыны Міхась Васілёк напісаў верш. Вось радкі з яго:

***Толькі-толькі ўсходзіла сонейка.***
***Кукавала зязюля ў сосніку.***
***Не гады жыць камусь яна зычыла***
***І не дні, а хвіліны падлічвала...***
***Была вёсачка ў лесе акружана.***
***Хор птушыны змоўк, перапужаны,***
***Бор быў лямантам дзікім абуджаны.***

***— Мама, мамачка, — дзеці галасілі,***
***Рэха ўдаль галаскі іх адносіла...***
***Кулямёт са смяротнымі кулямі***
***Заглушыў кукаванні зязюліны...***
***Зашумела сасонка пахілая***
***Над глыбокай, над брацкай магілаю.***
***Сціхла ўсё — стогны, енкі з праклянцямі,***
***Больш з зямелькі сырой***
***Не падняцца ім...***





Праз гады пасля заканчэння вайны родныя загінуўшых на брацкай магіле паставілі помнічак з крыжам і напісанымі іменамі. Унізе былі выбіты такія словы: "Памяць ад Таісы Кулеш, Марыі Дземшы, Сяргея Сытага, Алёны Ушкевіч і Аляксея Самойлы".

Але помнік з крыжам не спадабаўся кіраўнікам раёна. Як так: на брацкай магіле ды помнік з крыжам? Сталі ціснуць на кіраўніцтва мясцовага сельскага Савета і калгаса, каб замест яго паставілі помнік з зоркай. Але ж — як знесці? Людзей пакрыўдзіш! А не знесці — начальства падвядзеш. Вырашылі зрабіць так, каб і было добра і начальству і каб людзі не крыўдзіліся. Узялі ды паставілі помнік з зоркай паперадзе, засланіўшы помнік з крыжам. Так і стаяць яны побач — два помнікі на адной магіле. Адзін — памяці загінуўшых дземшаўцаў, другі — памяці ці то таму часу, ці то тагачаснай уладзе.

А што вёска Полымя? З гадамі і з'яе разляцелася моладзь, як і з іншых вёсак. Ужо шмат гадоў, як не стала Аляксандра Дземшы. Састарэлую Тамару Дземшу забралі дзеці ў горад. Памерла і салдацкая ўдава Аляксандра Рамановіч. Цяпер на тры хаты засталася толькі адна васьмідзесяцігадовая ўдава Аляксандра Юльянавіча — Лідзія Рыгораўна Дземша, якая моцна прыкіпела да вёскі і не хоча яе пакідаць, хоць і немачная.

Іх я і сфатаграфаваў: помнік па вёсцы і яе апошнюю жыхарку.

**І. БАРЫСАЎ**

*г. Скідзель*

# Салодкае слова свабода

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

ажаніцца з жанчынай, з якой сышоўся і якая нарадзіла яму дзіця. "Нехта яму падказаў, — працягваў свой аповед Вячаслаў Барысавіч, — што яго былы "грамадзянін начальнік" па Магілёўскай калоніі пераведзены на працу ў Мінск у Міністэрства ўнутраных спраў. Ён мяне тут адшукаў і расказаў пра свае нягоды. Я пачаў званіць у розныя інстанцыі і, нарэшце, удалося дапамагчы чалавеку і з атрыманнем пашпарта, і з прапіскай, і з працаўладкаваннем". Адным словам, гэтаму былому зэку пашанцавала, а іншым, што апынуліся ў падобных сітуацыях, хто дапаможа?

СЯРОД катэгорый асуджаных, якія не падпадаюць пад дзеянне Закона аб амністыі, — людзі, якія здзейснілі "злачынствы супраць грамадскай бяспекі, грамадскага парадку і здароўя насельніцтва". Сам факт, што дзяржава лічыць гэтыя злачынствы (пакінем убаку "здароўе насельніцтва") найбольш небяспечнымі ў святле падзей, што апошнім часам адбыліся ў краіне, насцярожвае. Не сакрэт, што не адны хулiганы і дэбашыры сёння прыцягваюцца да судовай адказнасці "за парушэнні грамадскага парадку". Паспытала на сабе моц міліцэйскіх дубінак, пасядзела за турэмнымі кратамі і нямала ўдзельнікаў мітынгаў і шэсцяў пратэсту супраць палітыкі і дзеяння ўлад, адным словам, акцый, якія ва ўсім цывілізаваным свеце ўспрымаюцца як праявы дэмакратычных свабод.

Паводле Закона аб амністыі з месц зняволення выйдзе на свабоду, як ужо было згадана, 6—7 тысяч чалавек. Многа гэта ці мала, мяркуйце яшчэ па адной лічбе: у месцах зняволення застаецца 50 тысяч чалавек. "Арыфметыка" гэтая досыць прыблізная, бо пры цяперашнім узроўні злачыннасці суды не сядзяць без працы. Так што перанаселенасць следчых ізалятараў, калоній і турмаў, якая зараз складае недзе 15-16 тысяч асуджаных, захаваецца і надалей.

...Як мне распавяла Людміла Міхайлаўна, адны́мі з першых па амністыі выйшлі больш як сто асуджаных з дзвюх аршанскіх калоній. На Аршанскім вакзале, ад'язджаючы, яны кідалі шапкі ўгару і крычалі "Ура, свабода!"

Гэта салодкае слова — свабода...

**Міхась ЗАМСКІ**

*Фота А. МАЦЮША*

# Абыякавасці не цярпеў

## Некалькі згадак пра Алеся Адамовіча

Радзім ГАРЭЦКІ

Упершыню Алеся Міхайлавіча Адамовіча я ўбачыў у пачатку 1970-х гадоў у Мінску на кватэры маіх бацькоў, калі жылі яны па вул. Акадэмічнай (цяпер вул. Ф. Скарыны). Сярэдняга росту, у простым (без усякіх гальштукаў), відаць, зручным для яго адзенні, з добрай капой цёмных валасоў над круглявым тварам, ён сардэчна павітаўся з маімі бацькамі, якіх ужо ведаў раней, і таксама вельмі шчыра паціснуў мне руку. Скрозь акуляры ўважліва глядзелі разумныя карыя вочы, якія мне здалося поўнымі дабрыні, нейкай лагоды і спакою. І таму, мусіць, ён мне спачатку нагадаў П'ера Бязухава. Але калі Алесь Міхайлавіч загаварыў характэрнай шыбкай гаворкай, якая ледзь паспявала за яго яшчэ значна больш хуткай думкай, я адчуў, што гэта зусім іншы чалавек — гарачы, імпульсіўны, востры, шчыры, які вельмі лагічна разважае, надзіва вобразна думае.

Алесь Міхайлавіч тады зацікавіўся жыццём і творчасцю Максіма Гарэцкага, які ў сувязі з поўнай рэабілітацыяй пачаў патроху вяртацца сваімі творамі да свайго народа. У той час ужо выйшлі з друку "Выбранае" (1960), "Віленскія камунары" (1965), "Выбраныя творы" ў 2-х тамах (1973). У прадмовах да твораў Максіма Гарэцкага, у асобных артыкулах Максіма Лужаніна, Ю. Пшыркова, Д. Бугаёва, М. Мушынскага, І. Чыгрына пераглядалася ацэнка творчасці пісьменніка і з кожным годам яна станавілася ўсё больш станоўчай. Д. Бугаёў выдаў невялікую па памерах, але грунтоўную манаграфію "Максім Гарэцкі" (1968).

А. Адамовіч, як даследчык беларускай прозы, адчуваў, што творчасць Максіма Гарэцкага асветлена яшчэ недастаткова, і таму вырашыў гэты недахоп часткова ліквідаваць. Ён падараваў майму бацьку сваю кнігу "Горизонты белорусской прозы" (Масква, 1974), у якой яшчэ зусім мала гаворыцца пра Максіма Гарэцкага, з такім надпісам: "Дарагому Гаўрылу Іванавічу — ад аўтара! Вельмі не стае кнізе гэтай аднаго раздзела. Але бачыце, як аўтар глыбакадумна падлёрся — зразумеў і бярэцца зноў за працу. 2. 9.74 г. А. Адамовіч". Ад слова "падлёрся" ён зрабіў стрэлку да свайго партрэта ў кнізе, дзе пісьменнік падпірае кулаком падбародак.

Алесь Міхайлавіч дэталёва вывучаў увесь надрукаваны матэрыял, архівы, часта размаўляў з жонкай Максіма Гарэцкага — дзядзінай Лёляй (Леанілай Усцінаўнай Чарняўскай), яго дачкой — Галінай Максімаўнай, якія жылі ў Ленінградзе, а таксама з маімі бацькамі, асабліва Гаўрылам Іванавічам, прычым такія гамонкі былі вельмі цікавыя, жывыя, з бясконцымі пытаннямі, глыбокімі развагамі і абагульненнямі.

У верасні 1974 г. А. Адамовіч напісаў майму бацьку ліст з просьбай адказаць на даволі шырокі спектр пытанняў пра Максіма Гарэцкага. "Дарагі Гаўрыла Іванавіч! Прабачце, што пішу многа пытанняў. Але і гэтага мала, хацелася б, каб Вы вакол іх напісалі як мага больш пра ўсё, што памятаеце. Спатрэбіцца гэта не аднаму мне. Пра асобу, пра творы (як задумваліся, як пісаліся), пра яго жыццё, пра погляды, пра думкі, пра жыццё ўсёй сям'і і г. д." Далей было шэсць грунтоўных пытанняў. Бацька адказаў падрабязным лістом памерам амаль на 10 машынапісных старонак пад назвай "Вытокі творчасці Максіма Гарэцкага". Амаль поўнасцю гэты ліст у выглядзе вялікіх вытрымак быў выкарыстаны Алесем Міхайлавічам у яго вядомай манаграфіі "Браму скарбаў сваіх адчыняю" (1980).

Так атрымалася, што першы манаграфічны аналіз творчасці Максіма Гарэцкага зрабіў у 1928 г. Антон Адамовіч (надрукаваны ў часопісе "Узвышша", NN 1—6). Але гэтая манаграфія засталася малавядомай, а для сучаснага чытача і зусім невядомай, бо ўжо ў сярэдзіне 1930 г. і пісьменнік і даследчык яго творчасці былі арыштаваны па справе "Саюза вызвалення Беларусі", а большасць іх твораў знішчана і забаронена на многія дзесяткі гадоў. І вось больш чым праз 50 гадоў выйшла ў свет найбольш грунтоўная манаграфія пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага, аўтарам якой зноў-такі быў Адамовіч, але ўжо не Антон, а Алесь.

Перагледзеўшы ўвесь творчы шлях Максіма Гарэцкага, яго мнагагранныя творы, іх уплыў на "ўсю глыбіню беларускай літаратуры XX стагоддзя", Алесь Адамовіч першым з літаратуразнаўцаў прыйшоў да такой высновы: "Асноўная мэта нашага даследавання заключалася ў тым, каб нанова "ўпісаць" фігуру М. Гарэцкага, творчасць, спадчыну М. Гарэцкага ў беларускі літаратурны працэс, як ён бачыцца з вышыні нашага часу. Дакладней: усвядоміць, якое месца займае пісьменнік у гэтым працэсе. Месца гэта — адно з важнейшых: месца класіка беларускай літаратуры. Побач з Купалам, Коласам, Багдановічам" ("Браму скарбаў...", 1980. С. 194).

Вялікае ўражанне на А. Адамовіча зрабілі пісьмы сына Максіма Гарэцкага Леаніда з фронту, з якімі яго пазнаёмілі дзядзіна Лёля і Галя ў Ленінградзе. Ён іх яскрава пракаментаваў і надрукаваў як у згаданай манаграфіі, так і раней у часопісах "Маладосць" (N 9, 1974) і "Юность" (N 4, 1975). Ён пісаў: "Чалавечы і пісьменніцкі воблік, шлях Максіма Гарэцкага мелі нечаканы працяг — ужо пасля яго смерці. Кароткі, але асляпляльны працяг у жыцці — подзвігу яго сына. ... — гэта пацвярджэнне і вышэйшая ацэнка жыцця Гарэцкага-бацькі. Гэта такое паўтарэнне бацькі, яго душы, розуму, таленту, сумленнасці і чалавечнасці!.." ("Браму скарбаў...", 1980. С. 4). Бацька і сын — Максім і Леанід Гарэцкія — зноў сустрэліся ў кнізе "На імперыялістычнай вайне" і "Письма с фронта" (1987), якая выйшла з цудоўнай прадмовай М. Мушынскага.



*Алесь Адамовіч з супрацоўнікамі Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. Леніна.*

Дарэчы, думка аб стварэнні "Блокадной книги" пачалася ў А. Адамовіча з некалькіх ленінградскіх гісторый, якія ён пачуў ад Галіны Максімаўны і якія былі такія ж жудасныя, як і хатынскія. Галіна Гарэцкая пазнаёміла яго з Марыяй Гур'янаўнай Сцепанчук — першай блакадніцай (былой суседкай Гарэцкіх), ад якой А. Адамовіч 5 красавіка 1975 года зрабіў свой першы запіс. Аб гэтым ён успамінае ў інтэрв'ю газеце "Литературная Россия" ад 12 сакавіка 1982 г.

У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў А. Адамовіч многа разоў прыходзіў пагаманіць з Гаўрылам Іванавічам і на яго новую кватэру па вул. Кульман. Я жыў у тым жа пад'ездзе і таму часта прысутнічаў пры гэтых гамонках. Слухаць іх было заўсёды вельмі цікава. Гаўрыла Іванавіч успамінаў пра брата, пра іншых пісьменнікаў і дзеячаў таго часу. Гаварылі і пра сучасную літаратуру, яе стан і развіццё, агульныя падзеі. Алеся Міхайлавіча тады вельмі турбавала праблема ядзернай вайны, пра якую ён горача і пераканаўча апавядаў. Дзівіла лагічнасць яго думкі, неардынарнасць і смеласць яго выказванняў, якія нярэдка рэзка разыходзіліся з агульнапрынятымі паняццямі.

Іншы раз А.Адамовіч прыносіў у падарунак свае новыя кнігі, падпісваў іх маім бацькам, а многія і мне. Расказваў пра тыя цяжкасці, якія амаль заўсёды яму прыходзілася пераадольваць пры іх друкаванні. Праўда яго кніг, часта горкая і жорсткая, многім цэнзарам, кіраўнікам і іншай закасцянелай грамадскасці нашай таталітарнай дзяржавы, узгадаванай на разглядзе жыцця праз ружовыя акуляры сацыялістычнага рэалізму, не падабалася. Вялікі рэзананс выклікалі "Карнікі", якую большасць чытачоў сустрэла, як выдатнейшы твор, у якім узняты самыя актуальныя агульначалавечыя філасофскія праблемы. Зноў не абышлося без нападак.

А. Адамовіч разгарнуў далей той глыбокі псіхалагізм пераходу звычайнага чалавека ў здрадніка, а затым і ката, які так яскрава паказаў Васіль Быкаў. Алесь Міхайлавіч заглянуў у бяздонныя таямніцы чалавечай істоты. Войны, рэпрэсіўныя таталітарныя сістэмы часта ставілі многіх людзей у такія звышумовы, што яны павінны былі рабіць канчатковы выбар: ці самому загінуць, ці стаць карнікам. Прага да жыцця ў многіх перамагала... Адамовіч сваёй кнігай заклікае выхоўваць у людзей абсалютную павагу да жыцця не толькі свайго, але і другога чалавека. На жаль, сёння мы назіраем страшэнны працэс пашырэння жорсткасці чалавека, калі ва ўсім свеце і асабліва ў краінах СНД у грамадстве расце крыміналізацыя, тэрарызм, калі чалавек ужо без усякіх "звышумоў" з надзвычайнай лёгкасцю пазбаўляе жыцця другога чалавека. Чаму так? Чаму чалавек губляе тую маральную планку, якую ён не павінен пераступіць? Выхаваць чалавека так, каб ён адчуваў немагчымасць далей жыць самому, дараваць сабе злачынства, калі ён перайшоў гэтую планку. Ці магчыма такое? У гэтым кантэксце і цяпер кніга А. Адамовіча асабліва актуальная.

Вядомы беларускі кінарэжысёр І. Калоўскі задумаў стварыць фільм пра Максіма Гарэцкага, у якім значнае месца было адведзена размове майго бацькі і Алеся Міхайлавіча пра жыццё і творчасць пісьменніка. Гэтыя здымкі вяліся на кватэры Гаўрылы Іванавіча. Абодва субяседнікі сядзелі за вялікім круглым сталом і вялі сябе так спакойна, упэўнена, быццам яны сапраўдныя кінаакцёры са стажам. Вялася гаворка пра жыццёвы шлях Максіма Гарэцкага, яго творы (прынамсі, пра стварэнне "Камароўскай хронікі"), значэнне і ўплыў творчасці пісьменніка на сучасную беларускую літаратуру. Збіраліся разы тры, і рэжысёр гэтую размову запісваў на працягу некалькіх гадзін. На жаль, з той цікавай гамонкі ў фільм трапіла толькі зусім невялікая яе частка.

Успамінаецца і "валунная" тэма, звязаная з А. Адамовічам. Многія вядомыя дзеячы часу "развітога сацыялізму" вельмі стараліся, асабліва на схіле жыцця, так сябе паказаць, так прыстасавацца да "сільных мира сего", каб пасля смерці абавязкова трапіць на самыя прэстыжныя могілкі. У сувязі са смерцю выдатнага савецкага пісьменніка Канстанціна Сіманава ўсе цэнтральныя газеты абвясцілі, што пахаванне будзе на Навадзевічых могілках. Праз некаторы час мне пазваніў А. Адамовіч і сказаў, што ўладная вярхушка паспяшалася даць такое паведамленне, нават не ўзгадніўшы яго з роднымі, бо не магла і падумаць, што можа быць па-іншаму. К.Сіманаў кінуў уладам яшчэ адзін апошні выклік: ён пакінуў завяшчанне, у якім прасіў спаліць яго цела ў крэматорыі, а попел развеяць на Буйніцкім полі пад Магілёвам — там, дзе ён быў сведкам гераічных бітваў з ворагам, дзе змагаліся прататыпы многіх яго твораў, у тым ліку выдатнага рамана "Жывыя і мёртвыя". Ён захацеў хоць так з'яднацца са сваімі героямі і стаць часцінкай той зямлі, дзе навечна паляглі яны маладымі. Абарона Магілёва была настолькі гераічнай і важнай для ходу баёў, што К. Сіманаў ці не ўсё жыццё дамагаўся, каб гораду Магілёву прысвоілі званне "Горад-герой". Жонка і сын К. Сіманава з сябрамі цішком (бо маглі і не дазволіць) выканалі запавет пісьменніка.

Каб пазначыць тое месца, дзе кінуты ў зямлю попел праху выдатнага чалавека, А. Адамовіч ад імя Васіля Быкава і свайго папрасіў мяне знайсці добры прыгожы валун, які стане там своеасаблівым помнікам К. Сіманаву. А. Адамовіч ведаў, што наш Інстытут геахіміі і геафізікі Акадэміі навук БССР стварае недалёка ад свайго будынка музей валуноў пад адкрытым небам, думку аб якім выказаў Гаўрыла Іванавіч, а я, як дырэктар інстытута, арганізаваў працу па яго пабудове. Я папрасіў спецыялістаў, якія вывучалі валуны, займаліся іх адшуканнем і перавозкай на поле будучага музея, у першую чаргу ст. навуковага супрацоўніка Святлану Астапаву і вядучага інжынера Валерыя Вінакурава, заняцца гэтай справай. Яны знайшлі некалькі выразных валуноў, прыгодных для такой мэты, у розных мясцінах Міншчыны. Жонка і сын К. Сіманава агледзелі намечаныя валуны, але ні адзін з іх ім не спадабаўся. Тады вырашылі паглядзець сярод тых, якія мы ўжо звезлі да музея. І тут досыць вялікі (каля 15 тон вагой) гладка абкатаны валун, жоўта-шэры з чырвоным адценнем, прыйшоўся да душы.

А. Адамовіч, як заўсёды, вельмі энергічна ўзяўся за справу, дамовіўся з кіраўніцтвам Беларускай ваеннай акругі, каб яны вылучылі транспарт і салдат для перавозкі. Прыехала рота салдатаў на чале з маёрам, вялікі кран, аўтамашына з прычэпам і — валун быў устаноўлены на Буйніцкім полі. На ім зроблены факсімільны подпіс К. Сіманава. Улады былі вельмі незадаволены і таму звесткі пра гэты ўчынак пісьменніка, месца яго пахавання і помнік у выглядзе магутнага валуна доўгі час былі невядомы і з'явіліся ў друку толькі ў 90-х гадах. Але сюды з'язджаюцца людзі з усіх краін СНД, наведваюцца госці і з далёкага замежжа, а цяпер тут устаноўлены мемарыял з танкам, капліцай, як памяць аб загінуўшых на вайне. У гэтым ёсць і намаганні нашага няўрымслівага А. Адамовіча.

Неяк я прывёз Алеся Міхайлавіча паглядзець наш музей валуноў, а гэта — унікальны музей, адзіны такога тыпу ў свеце. Я расказаў яму пра паходжанне валуноў, пра ледавікі, якія іх прынеслі, звязаныя з імі легенды, пра падзеі мінулага, якіх яны былі сведкамі, і г. д. Алесь Міхайлавіч вельмі ўважліва слухаў і сам стаў распавядаць пра гісторыю беларускага народа, нашага краю. Адбылася ў нас цікавая размова пра ўплыў прыроды на чалавека, сувязь маляўнічых ландшафтаў на станаўленне будучых мастакоў пяра і пэндзля. Яму спадабаўся наш музей і ён адзначыў, што цяпер зусім па-іншаму ставіцца да валуноў — гэтых маўклівых сведкаў даўніны.

Вельмі цяжка перажываў Алесь Міхайлавіч смерць сваёй маці. Падышоў час ставіць помнік. Ён звярнуўся да мяне з просьбай знайсці прыгожы, не надта вялікі валун на магілку. У хуткім часе знайшлі такі, які яму спадабаўся. Але не павёз яго ў Глушу, а папрасіў пакласці каля галоўнага будынка Акадэміі навук — я адчуў, што ён не ўпэўнены, ці ставіць іменна такі помнік. Потым мне сказаў, што паставіў звычайны помнік, такі, як ва ўсіх, бо вяскоўцы не зразумеюць і палічаць, што вось сын прыдавіў маці каменем і не дае магчымасці вольнай быць яе душы. А далей дабавіў: "А я б хацеў, каб у мяне быў валун".

У той час, калі А. Адамовіч ужо паехаў з беларускай Вандэі ў Маскву, стаў народным дэпутатам СССР, калі папулярнасць яго як смелага грамадзянскага дзеяча высока ўзрасла, ён аднойчы прыехаў у Мінск на канферэнцыю дэмакратычных сілаў, якая адбывалася ў Чырвоным касцёле. У перапынку мы стаялі з ім і размаўлялі. Падышлі хлопцы з радыё і папрасілі яго даць інтэрв'ю. На пытанне пра адносіны беларускіх улад

*(Працяг на стар. 15)*

## Яго радзіма — Капыльшчына

**Валянцін Рабкевіч пакінуў аб сабе памяць як перакладчык, добры знаўца мовы і даследчык яе. А яшчэ належаў да тых, хто адстойваў яе права на жыццё, а таму за актыўнасць сваёй грамадзянскай пазіцыі меў нямала непрыемнасцяў.**

**Нарадзіўся Валянцін Іванавіч 15 лютага 1937 года ў вёсцы Аксаміты Капыльскага раёна, памёр 6 лютага 1995-га. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, настаўнічаў, вучыўся ў аспірантуры. У 1968—1975 гадах В. Рабкевіч працаваў старшым рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі выдавецтва "Беларуская савецкая энцыклапедыя", а з 1974 года — у выдавецтве "Мастацкая літаратура" — рэдактар і да заўчаснай смерці старшы рэдактар.**

**У 1957 годзе В. Рабкевіч апублікаваў у часопісе "Работніца і сялянка" свой першы верш. Аўтар зборніка вершаў для дзяцей "Ад зімы да зімы" (1982), кніжкі прыказак і прымавак "Паслухай, што людзі кажуць" (1985), выступаў у перыёдыцы з артыкуламі па пытаннях культуры мовы. У перакладах В. Рабкевіча выйшлі "Апавяданні пра Леніна" М. Зошчанкі, "Апавяданні" М. Чарамшыны, "Жанчына ў пяску" і "Чужы твар" Коба Абэ, "Мары не паміраюць" Л. Метсара, "Мама выходзіць замуж" М. Марцінсан і іншыя кнігі. Ім пераўвасоблены па-беларуску і асобныя творы М. Гогаля, Г. Ахматавай, С. Ясеніна, М. Рыльскага...**

## Чарадзейства



*Мастачка Валянціна Бартлава*

**Майстроў, што актыўна займаюцца габеленам, не проста мала — іх можна пералічыць на пальцах. І ўсё з-за таго, што дорага купляць ніткі, яшчэ даражэй — заказаць работу на спецыялізаваным камбінаце, а стварыць прыгажосць рукамі — даўгая і марудная справа, якая не заўжды акупляецца, не гаворачы пра нейкі прыбытак. Таму і цікавяцца габеленамі (у сэнсе набываюць) замежнікі, а нашы пакупнікі-музейшчыкі ды галерэйшчыкі застаюцца ўбаку. І парадаваць вока тканай прыгажосцю на персанальных выставах габеленаў даводзіцца рэдка.**

**Валянціна Бартлава — мастачка, *слынная сваімі алегарычнымі*, вытанчанымі колерава і тэматычна габеленамі. Сёння *яна паспяхова* кіруе кафедрай мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва ў Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе пасля шматгадовага перапынку некалькі гадоў назад распачаліся першыя выпускі мастакоў-мадэльераў і майстрых тканага чарадзейства. У музеі акадэміі і адкрылася выстава Валянціны Бартлавай, чарговая ў шэрагу экспазіцый выкладчыкаў акадэміі, што працягвае добрае пачынанне — дапамагчы мастакам выставіцца пры безумоўна вялікім кошце іншых вялікіх залаў і прадэманстраваць студэнтам творчасць і асобу іх выкладчыкаў.**

**На адкрыцці выставы В. Бартлавай добрае слова сказалі супрацоўнікі яе кафедры, кіраўніцтва акадэміі і сябры — Алесь Разанаў і Уладзімір Конан.**

**Н. Ш.**

***Сплыло 50 гадоў з дня Нюрнбергскага прысуду галоўным гітлераўскім злачынцам. У доўгім ланцугу злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупаваных тэрыторыях, у тым ліку, вядома, і на беларускай зямлі, не апошняе месца займае і прымусовы ўгон мірнага насельніцтва на катаржную працу ў Германію.***

***Гэтай балючай і сёння тэме прысвяціў сваё расследаванне гісторык Мікалай Бандарэнка, якое прапануем увазе чытачоў "ЛіМа".***

# Вайна: у рабства ў Германію

У першапачатковых планах фашысцкіх правіцеляў не прадугледжвалася ў ходзе вайны выкарыстоўваць у Германіі рабочую сілу з акупаваных тэрыторый. Выконваючы планы "маланкавай вайны", гітлераўцы разлічвалі, што яна не прынясе ім вялікіх страт, а таму ў Германіі не спатрэбіцца дадатковая рабочая сіла. Прадугледжвалася выкарыстоўваць насельніцтва акупаваных раёнаў толькі на месцы, у інтарэсах груп арміі, якія вядуць ваенныя дзеянні. Правал планаў "маланкавай вайны" прымусіў гітлераўцаў унесці сур'ёзныя папраўкі ў першапачатковыя праекты выкарыстання рабочай сілы. У пачатку лістапада 1941 года Герынг даў указанне аб выкарыстанні савецкіх людзей на работах у Германіі і на акупаваных тэрыторыях. Ужо ў лістападзе была пастаўлена задача вывезці на прымусовыя работы ў Германію з акупаваных раёнаў СССР 15 мільёнаў рабочых.

У дырэктыве гаспадарчага штаба германскага камандавання на Ўсходзе ад 4 *снежня 1941 года даваліся наступныя* ўказанні аб адносінах да савецкіх людзей: "Пры *прымяненні мер падтрымання* парадку рашаючым меркаваннем з'яўляецца хуткасць і строгасць. Павінны прымяняцца толькі наступныя разнавіднасці пакарання, без прамежкавых ступеняў: пазбаўленне харчавання і пакаранне смерцю".

Угон на работы ў Германію стаў часткаю нямецка-фашысцкага акупацыйнага рэжыму. Выкарыстоўваючы войска і паліцыю, акупанты рабілі аблавы і ўганялі ў Германію тысячы людзей, праяўляючы пры гэтым небывалую жорсткасць і самадурства. Па нямецкіх звестках, у лютым 1942 года штодзённа ў Германію прывозілася на работу 8—10 тысяч "цывільных рускіх".

Для правядзення ў жыццё страшэннай рабаўласніцкай праграмы быў створаны велізарны спецыяльны апарат на чале з назначаным Гітлерам "галоўным упаўнаважаным *па выкарыстанні рабочай сілы*" Фрыцам Заўкелем, які ў хуткім часе разаслаў у строга сакрэтным парадку ўрадавым і ваенным органам сваю "Праграму". У гэтым дакуменце гаворыцца: "Вельмі неабходна цалкам скарыстаць у акупаваных савецкіх абласцях наяўныя людскія рэзервы. Калі не ўдасца добраахвотна прыцягнуць патрэбную рабочую сілу, дык неабходна прыступіць да мабілізацыі або да прымусовага падпісання індывідуальных абавязацельстваў. Побач з ваеннапалоннымі, якія ўжо знаходзяцца ў акупаваных абласцях, галоўным чынам неабходна мабілізацыя грамадзянскіх кваліфікаваных рабочых і работніц з савецкіх абласцей ва ўзросце старэй 15 год для скарыстання іх на працы ў Германіі".

У той жа "праграме" (раздзел "Задачы", пункт 4) Заўкель заявіў: "Для таго, каб разгрузіць ад работы вельмі занятую нямецкую сялянку, фюрэр даручыў мне паставіць у Германію з усходніх абласцей 400—500 тысяч адборных, здаровых і моцных дзяўчат".

Агенты Заўкеля прыступілі да ўліку ўсяго працаздольнага насельніцтва ў акупаваных раёнах СССР. Узятым на ўлік грамадзянам прапаноўвалі "добраахвотна" выехаць на работу ў Германію. Але паколькі добраахвотнікаў амаль не аказалася, немцы распарадзіліся ўжыць гвалтоўныя меры. *Яшчэ 25 студзеня* 1942 *года гаспадарчы* штаб германскага камандавання на Ўсходзе ў сакрэтнай інструкцыі (БР 98510/12) патрабаваў: "Калі колькасць добраахвотнікаў не апраўдае чаканняў, дык згодна з загадам у час вярбоўкі трэба ўжыць самыя суровыя меры".

Падганяючы сваіх падначаленых, Заўкель тэлеграфуе ім 31 сакавіка 1942 года наступны загад: "Вярбоўка, за якую вы адказваеце, павінна фарсіравацца ўсімі даступнымі мерамі, уключаючы суровае прымяненне прынцыпу прымусовасці працы".

"Вярбоўшчыкі" ўжывалі разнастайныя меры ўздзеяння да савецкіх грамадзян, каб уцягнуць іх у нямецка-фашысцкае рабства. Тых, хто не з'яўляўся па выкліку акупацыйных улад, пазбаўлялі ўсіх сродкаў на існаванне. Згаладалых людзей заманьвалі *на вакзалы*, абяцаючы раздачу хлеба, а затым ачаплялі салдатамі і пад пагрозай *расстрэлу грузілі ў эшалоны. Але і гэта не* дапамагала. Тады нямецкія ўлады пачалі рабіць развёрстку па *гарадах* і *сельскіх* раёнах, прычым кожны горад і раён павінны былі абавязкова паставіць пэўную колькасць жыхароў для адпраўкі ў Германію. Для кожнай вёскі былі ўстаноўлены кантрольныя лічбы "паставак" працаздольнага насельніцтва.

Так, напрыклад, у Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці грамадзянка Зязенчык Кацярына з вёскі Волма атрымала наступнае прадпісанне: "На аснове загаду ваеннага каменданта вы абавязаны з'явіцца ў г. Чэрвень у аддзел працы а 10 гадзіне раніцы 6 *снежня* 1942 года для паездкі на працу ў Германію, захапіўшы з сабой памянёныя на *адвароце гэтага рэчы і прадукты на 4 дні*. У выпадку няяўкі будзеце прыцягнуты да адказнасці *па законе ваеннага часу*".

Такім спосабам гітлераўцы гвалтоўна адпраўлялі ў Германію пераважна моладзь.

У лютым 1942 года з горада Віцебска немцы ўгналі ў Германію 2600, у сакавіку — 750, маі — 3500 чалавек.

У Смалявіцкім, Лагойскім і Барысаўскім раёнах Мінскай вобласці "добраахвотны" вываз насельніцтва ў Германію немцы праводзілі наступным чынам. Прыязджаючы ў вёску, узброеныя эсэсаўцы і паліцыя ачаплялі яе з усіх бакоў. Затым фашысты заходзілі ў кожны дом і правяралі дакументы, *і людзей ва ўзросце ад 14 да 50 год* саджалі ў машыны і адвозілі на станцыі для *адпраўкі ў Германію. На станцыях грузілі ў* таварныя вагоны, забівалі дзверы гэтых вагонаў і, *як жывёлу, везлі на нямецкую* катаргу. Толькі са станцыі Смалявічы ў кароткі тэрмін было адпраўлена звыш 4 тысяч чалавек.

У Віцебскай вобласці ў канцы студзеня 1943 года ў насельніцтва немцы адбіралі пашпарты быццам для перарэгістрацыі і затым прапаноўвалі з'явіцца асабіста, каб атрымаць іх. Усіх, хто з'явіўся, тут жа затрымлівалі і адпраўлялі ў Германію.

У пачатку красавіка 1943 года Беларусь наведаў імперскі генеральны ўпаўнаважаны па выкарыстанні рабочай сілы гаўляйтар *Заўкель*. Ён патрабаваў ад акупацыйных улад мабілізаваць усе сілы для актывізацыі *дзеянняў па захопе рабочай сілы*. Адначасова кампанія па вывазе савецкіх людзей на катаргу ў Германію і акупаваныя ёю еўрапейскія краіны мела на мэце зменшыць рэзервы партызанскіх сіл на Беларусі і стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для каланізацыі беларускай зямлі.

У цэлым гітлераўцам удалося захапіць і вывезці ў Германію з акупаваных раёнаў СССР каля 5 мільёнаў чалавек, з іх з тэрыторыі УССР — 2,4 мільёна чалавек, з БССР — 380 тысяч чалавек.

Аб масавым угоне мірнага насельніцтва з Беларусі ў Германію гвалтоўным шляхам сведчаць фашысцкія дакументы тых гадоў, дзе прыводзяцца красамоўныя даныя і прызнанні акупантаў. У прыватнасці, такі *матэрыял утрымліваецца ў "пратаколе* нарады акруговых камісараў, начальнікаў аддзелаў генеральнага камісарыята ў Мінску з 8 па 10 красавіка 1943 г.", у якім прыводзяцца факты пагроз "вярбоўшчыкаў: у выпадку адмаўлення людзей ехаць у Германію — расстрэльваць іх.

Што гітлераўскія прыгнятальнікі паступалі менавіта такім чынам, пацвердзіў прадстаўнік "біржы працы" з Вілейкі, які падзяліўся асабістым "вопытам" прымусовай "вярбоўкі" рабочай сілы ў Германію: "Я сам забіраю рабочых з вёсак так: застаўляю абшукваць хаты з двух бакоў. Потым у цэнтры вёскі злоўленыя правяраюцца і разам з сялянамі, якія не з'явіліся па павестках, адпраўляюцца ў цэнтр. Такім чынам я набіраю за дзень 45 чалавек.... Галоўнае ў гэтых аперацыях заключаецца ў тым, каб паказаць мясцоваму насельніцтву, што мы не жартуем... Да гэтага часу ў імперыю адаслана 6500 чалавек, *але я працягваю вербаваць далей...*"

Адным з метадаў захопу насельніцтва, якія былі *ухвалены нарадай, з'яўляліся* аблавы ў гарадах, у тым ліку і ў Мінску. Сабатаж адпраўкі ў Германію рабочай сілы караўся расстрэлам.

Дзень і ноч з акупаваных раёнаў Беларусі, Украіны і Расіі ішлі ў Германію эшалоны нявольнікаў. Людзей везлі па 60—70 чалавек у *адным таварным вагоне*.

У лагерах для рабочых з акупаваных тэрыторый СССР быў *устаноўлены жорсткі* рэжым. У выніку дрэнных умоў жыцця сярод іх *наглядаліся масавыя захворванні і* вялікая смяротнасць. У пісьме праўлення завода "ІГ Фабеніндустры" ў Ландсбергу ад 24 студзеня 1942 года адзначалася, што ў выніку дрэнных умоў жыцця "многія савецкія ваеннапалонныя памерлі, а яшчэ большая колькасць іх не з'яўляецца на будаўнічай пляцоўцы з-за хваробы".

Тэхнічны дырэктар сталеліцейных заводаў Крупа ў Эсэне ў мемарандуме ад 14 сакавіка 1942 года адзначаў, што "некаторыя рускія не ў сілах павярнуць вінт, настолькі яны знясіленыя".

Ежа складалася з вадкага бульбянога, бурачковага супу ці варанага бурачнага бацвіння, хлеб даваўся раз у тыдзень.

Непасільная праца, голад, антысанітарыя *прыводзілі да цяжкіх захворванняў*. Шырока былі распаўсюджаны туберкулёз, сыпны тыф, скурныя, сардэчныя хваробы, запаленне нырак. Чатыры пятыя ўсіх рабочых заводаў Крупа паміралі ад туберкулёзу.

Аддзяленне канцэнтрацыйнага лагера Наувелер Заксенхейм іменавалі "рускім лагерам". У ім у асноўным размяшчаліся савецкія грамадзяне, якія былі прывезены акупантамі для прымусовай, рабскай працы. Гэтыя асуджаныя на выміранне людзі ўтрымліваліся ў страшэнных умовах і гінулі проста на рабоце. Адзін з мясцовых жыхароў-немцаў пісаў, што сам наглядаў, як аднойчы з вагона, у якім з работы вярталіся зняволеныя, *было* вынесена і адразу ж адпраўлена на могілкі 10 трупаў.

На поўдні Дуісбурга ёсць камень з надпісам: "На гэтым месцы ляжаць дзеці савецкіх сем'яў, якія памерлі з 1941 па 1945 год". Па сведчанні старых жыхароў горада, прычынай гібелі гэтых дзяцей быў голад. Каб спатоліць голад, яны вымушаны былі ўжываць у ежу земляных чарвякоў.

Рускія, украінскія і беларускія рабочыя ў Германіі павінны былі насіць на адзенні вялікую літару "О", што значыла "Остарбайтэр" — "усходні рабочы".

У спецыяльных "Указаннях па абыходжанні з замежнымі рабочымі з цывільнага насельніцтва, якое знаходзіцца ў імперыі" ад 1 кастрычніка 1941 года, распрацаваных гітлераўскімі рабаўласнікамі, гаварылася: "Усходніх рабочых трэба ўтрымліваць у закрытых лагерах, якія яны могуць пакінуць толькі для правядзення работ, пад пастаяннай аховай вартаўнікоў ці начальніка лагера. На дробных сельскагаспадарчых прадпрыемствах ці аднаасобных гаспадарках, дзе дазволена скарыстанне рабочай сілы, можна змяшчаць рабочых па-за лагерам у добра зачыненым памяшканні, дзе ёсць немец-мужчына, які можа ўзяць на сябе функцыі кантролю".

18-гадовая беларуская дзяўчына Маруся Прыступа пісала сваёй маці ў Талачынскі раён: "Я працую ў Гальбургу на ткацкай фабрыцы буйнога капіталіста па 18 гадзін у суткі... Я згаладалася, пажаўцела, высахла, як шчэпка. Многія нашы работніцы захварэлі сухотамі. Не бывае дня, каб у бараку, у якім нас змясцілі, хто-небудзь не паміраў. Па некалькі дзён не ўбіраюць трупаў... Мамачка! Як балюча мне на сэрцы, пішу, а слёзы заліваюць пісьмо..."

З вёскі Рэчкі Багушэўскага раёна немцы

вывезлі ў Германію пятнаццаць дзяўчат. Пры ад'ездзе яны дамовіліся з роднымі аб тым, што калі ім будзе жыць у Германіі добра, дык на сваіх пісьмах яны намалююць кветкі, і, наадварот, калі жыццё будзе дрэннае, дык на пісьмах будуць намаляваны елачкі. Праз некаторы час усе сваякі атрымалі ад сваіх дачок з Германіі пісьмы, на якіх былі намаляваны елачкі. Адна дзяўчына з Багушэўскага раёна сваім сваякам прыслала з Германіі пісьмо наступнага зместу: "Жыву добра, лепш не трэба, але мая бабка ўсё ж жыве лепш. Я б жадала жыць, як яна. Магчыма, я хутка паеду да яе ў госці". У вёсцы ўсе ведалі аб тым, што бабка гэтай дзяўчыны памерла 7 гадоў таму назад.

Германскі ўрад арганізаваў куплю-продаж ператвораных у рабоў савецкіх грамадзян. За невялікую плату за чалавека кожны немец мог прыдбаць сабе рабоў. У Германіі былі ўведзены нявольніцкія рынкі. Тут, як у часы рабаўладальніцкага ладу, пакупнікі правяралі мышцы на руках і нагах савецкіх грамадзян, абменьвалі знясіленых бязлітаснай эксплуатацыяй рабоў на больш моцных.

Салдату Фрыцу Лерману яго маці з Прусіі пісала: "Мы атрымалі добрую рабочую сілу. У нас дзеўка з Беларусі. Я глядзела яе мышцы на руках і нагах. Нічога, будзе працаваць".

Рабочая сіла зняволеных была крайне таннай, аддавалася ў распараджэнне прадпрымальнікаў амаль неабмежавана і магла эксплуатавацца да фізічнага знішчэння.

У руках рабаўладальнікаў савецкія грамадзяне падвяргаліся нечалавечым жорсткасцям і эксплуатацыі. Яны запіраліся на ноч у халодныя кладоўкі і хлявы. Іх кармілі дрэнна і мучылі непасільнай работай. З савецкіх людзей здзекаваліся, усяляк падаўляючы ў іх чалавечую годнасць. Валянціна Дзёмушкіна, вярнуўшыся з Нюрнберга, дзе яна выступала ў якасці сведкі, расказвала: "Я працавала ў немкі. Муж яе обер-лейтэнант Карл Шток быў забіты на ўсходнім фронце пад Сталінградам. І студзеня 1943 года ў фраў Шток на навагодні абед павінны былі прыйсці госці. Захопленая работай і сваімі невясёлымі думкамі, я не заўважыла, як закіпела і пачало ліцца на электрычную плітку малако, пастаўленае кухаркай. Па кухні распаўсюдзіўся пах чаду. Раз'юшаная пані ўляцела ў кухню, вырвала з маіх рук каструлю з рэшткамі малака і пляснула мне ў твар. Я страціла прытомнасць, апрытомнела ў бальніцы і адчула невыносны боль і змрок. Я аслепла. Тры тыдні праляжала ў бальніцы і потым доўга прабіралася назад на радзіму". А было тады Валі ўсяго толькі 16 гадоў.

Нямецкія рабаўласнікі часта адкрыта выхваляліся сваімі зверствамі над савецкімі людзьмі. Падрадчык Лорэнс Шпеер пісаў свайму зяцю-салдату: "У нас цяпер працуе ўкраінская дзеўка 19 гадоў. Будзь спакойны — яна будзе працаваць. У нядзелю ў вёску прыбудзе яшчэ 20 рускіх. Я вазьму сабе некалькі штук..."

Тысячы савецкіх грамадзян, насільна ўгнаных у нямецкае рабства, гінулі ад голаду, холаду, празмернай працы і катаванняў. Нямала савецкіх грамадзян, даведзеных да адчаю нечалавечым абыходжаннем рабаўласнікаў, паканчвала жыццё самагубствам. Вось пісьмо, знойдзенае ў забітага пад Ленінградам обер-яфрэйтара Рудольфа Ламермайера. Яно напісана яго маці з мястэчка Люгдзе: "Учора днём да нас прыбегла Ганна Ліза Ростэрт. Яна была моцна раззлаваная. У іх на свінарніку павесілася руская дзеўка. Нашы работніцы гаварылі, што фраў Ростэрт усё біла, лаяла рускую. Яна прыбыла сюды ў красавіку і ўвесь час хадзіла ў слязах.Паканчыла з сабой, напэўна, у хвіліну адчаю. Мы супакоілі фраў Ростэрт, можна ж за недарагую цану прыдбаць новую рускую работніцу".

Недалёка ад Полацка немцы стварылі перасыльны лагер, дзе ўтрымлівалася звыш 400 дзяўчат і жанчын. Кожны тыдзень 20—30 палачанак накіроўвалі на катаржную працу ў Германію. У сярэдзіне ліпеня 1942 года ў лагеры 20 дзяўчат заявілі, што яны нікуды не паедуць са сваіх месц. Гітлераўцы з імі жорстка расправіліся. Яны доўга здзекаваліся з дзяўчат, а потым расстралялі.

Асабліва ўзмацніўся ўгон мірных людзей у Германію, калі пачалося масавае выгнанне нямецкіх войск з тэрыторыі СССР. У 1943 годзе гітлераўцы прыступілі да татальнай мабілізацыі насельніцтва на работу ў Германію. На аснове загадаў N 8466/43 ад 27 чэрвеня і N 10123/43 ад 26 ліпеня 1943 года галоўнакамандуючага групы армій "Цэнтр" фон Клюге яны праводзяць мабілізацыю моладзі 1925 і 1926 гадоў нараджэння. На працягу 10 тыдняў, пачынаючы з 1 жніўня 1943 года, усе юнакі і дзяўчаты гэтых узростаў павінны быць угнаны ў Германію. Ад мабілізацыі не вызваляліся нават асобы, якія былі заняты на самых важных работах. Мабілізаваных зганялі ў "зборныя лагеры", якія былі створаны ў Гомелі, Жлобіне, Бабруйску, Оршы, Барысаве, Магілёве, Віцебску і іншых гарадах Беларусі. Тут іх грузілі ў таварныя вагоны і пад узмоцненым канвоем эшалон за эшалонам везлі ў праклятае нямецкае рабства.

Нават акупацыйныя чыноўнікі даносілі Розенбергу, што на падначаленых яму тэрыторыях "прымяняліся такія метады вярбоўкі рабочай сілы, якія, магчыма, бяруць свой пачатак з самых чорных перыядаў гандлю рабамі".

На асобным ліку ў фашысцкіх захопнікаў было насельніцтва, якое пражывала ў партызанскіх зонах. Яно аб'яўлялася "бандыцтамі" ці "саўдзельнікамі бандытаў", станавілася "па-за законам" і падлягала пагалоўнаму ўгону ў рабства. На гэты конт меліся прамыя дырэктывы і распараджэнні гітлераўскага ўрада і ваеннага камандавання. Так, у загадзе N 8272/43 ад 14 ліпеня 1943 года галоўнакамандуючы групай "Цэнтр" фон Клюге распарадзіўся "забраць усё прыгоднае да працы насельніцтва з бандыцкіх абласцей, якія часова ўтрымліваліся бандытамі, і адправіць у Германію з мэтай далейшага павелічэння колькасці рабочых рук у імперыі". Для выканання гэтых загадаў рыхтаваліся буйныя воінскія часці і злучэнні, якія наладжвалі сапраўднае паляванне на мірных жыхароў. Толькі ў час карных экспедыцый "Котбус", "Герман" і "Фрыц" акупанты ўгналі, паводле іх жа даных, 38721 чалавека, у тым ліку 20844 мужчын, 12021 жанчыну і 5886 дзяцей. У час аперацый пад кодавай назвай "Балотная ліхаманка" было адпраўлена ў Германію 147 чалавек, "Рысь" — 300 чалавек, "Зімні лес" — больш за 2000 чалавек, "Франц" — 1000 чалавек, "Свята ўраджаю II" — каля 300 чалавек, "Шаравая маланка" — 804 чалавекі, "Зімняе чараўніцтва" — 2000 чалавек, "Русалка" — звыш 1000 чалавек, "Котбус" — больш 6000 чалавек. Усяго за гады вайны з Беларусі было вывезена не менш за 380 тысяч чалавек.

З набліжэннем лініі фронту гітлераўцы ўзмацнілі расправу з насельніцтвам, закрывалі прадпрыемствы і ажыццяўлялі масавы вываз станкоў, машын, рознай гаспадарчай маёмасці — усяго, што мела якую-небудзь каштоўнасць.

7 верасня 1943 года нямецкае камандаванне дало войскам загад ператварыць тэрыторыю, якую яны пакідаюць, у "зону пустыні". Афіцэрам і салдатам загадвалася знішчаць гарады і вёскі, а найбольш важнае прамысловае абсталяванне і культурныя каштоўнасці адпраўляць у Германію. У загадзе, у прыватнасці, гаварылася: "Усе без выключэння дамы неабходна паліць, печы ў дамах падрываць з дапамогай ручных гранат, калодзежы прыводзіць у нягоднасць шляхам знішчэння пад'ёмных прыстасаванняў, а таксама кідаючы ў іх нечыстоты (падлу, кізякі, гной, бензін). Стагі саломы і сена, а таксама ўсялякага роду запасы паліць, сельскагаспадарчыя машыны і тэлеграфныя слупы падрываць, паромы, лодкі тапіць. На ўсіх ляжыць абавязак паклапаціцца аб тым, каб тэрыторыя, што пакідаецца ворагу, на працягу доўгага часу не магла выкарыстоўвацца ім для якіх-небудзь ваенных мэт і для патрэб сельскай гаспадаркі".

Перад бегствам з Беларусі гітлераўскія прыгнятальнікі пайшлі на новае гнюснае злачынства. Як відаць з сакрэтнага мемарандума, падрыхтаванага 12 чэрвеня 1944 года для міністэрства па справах акупаваных усходніх абласцей, камандаванне групы армій "Цэнтр" збіралася "захапіць 40—50 тысяч юнакоў ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў, якія знаходзяцца на захопленай тэрыторыі, і прывезці іх у імперыю". Раскрываючы патаемныя мэты гэтай задумы, аўтары мемарандума пісалі: "Гэта мерапрыемства ставіць сваёй мэтай не толькі прадухіліць узмацненне варожай ваеннай магутнасці, але і скараціць яго біялагічныя патэнцыялы з пункту гледжання перспектывы на будучае; за гэтыя ідэі выказаліся не толькі імперскі кіраўнік СС, але таксама і сам фюрэр".

Вялікую ролю ў выратаванні людзей ад угону ў Германію адыгралі партызаны. Пад іх абаронай у лясах знаходзіліся дзесяткі і сотні тысяч савецкіх грамадзян, у так званых лясных (сямейных) лагерах. Напрыклад, на тэрыторыі Мінскай вобласці партызанамі было схавана каля 70 тысяч жыхароў Мінска, Барысава, Слуцка, іншых гарадоў і вёсак. Усяго партызаны вобласці выратавалі каля 567 тысяч мірных жыхароў. Частка насельніцтва была цераз лінію фронту накіравана ў савецкі тыл. Усяго з акупаванай тэрыторыі Беларусі ў савецкі тыл было накіравана каля 90 тысяч чалавек.

З уступленнем савецкіх войск на тэрыторыю Германіі пачалося вызваленне і вяртанне савецкіх людзей на Радзіму.

**Мікалай БАНДАРЭНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

ПАМЯЦЬ

# Апошняя роля

Учора споўнілася дзевяць дзён з дня смерці Валерыя Рыгоравіча Басава, кінарэжысёра творчага аб'яднання "Тэлефільм", яму ішоў усяго 56-ы год... Шчыры, сумленны, прынцыповы мастак і чалавек з абвостраным пачуццём высокай адказнасці — можа, таму і не вытрымала яго сэрца...

Ён не дажыў усяго некалькі месяцаў да трыццаціголддзя з таго дня, калі ўпершыню прыйшоў на Беларускае тэлебачанне.

Усё жыццё ён аддаў сваёй адзінай музе— кіно. Яго фільмы — мастацкія, дакументальныя, фільмы-канцэрты (а іх больш за 50) — важкі ўклад у беларускае кінамастацтва.

"Купальскую ноч", "Бусляня", "Салдатаў перамогі", "Крыж на зямлі", "Прычасце" ўбачылі і запомнілі мільёны гледачоў. Кароткая стужка "Імгненні радасці" выказала боль і гора дзяцей Чарнобыля ў шмат якіх краінах свету... Міжнародныя прызы і ўзнагароды зрабіліся падзякай Валерыю Басаву за ягоны боль-спачуванне.

Усяго тыдзень таму на тэлеэкране адбылася прэм'ера яго апошняга фільма, пранікнёнага, ахутанага светлым сумам — "Мой Мінск".

Да апошняга свайго дня Валерый Басаў працаваў над сцэнарыем мастацкага фільма "Апошняя роля", але зняць яго, на жаль, не паспеў.

Немагчыма пагадзіцца з непазбежным і не хочацца верыць у тое, што больш ніколі не з'явіцца ён на здымачнай пляцоўцы, што не прагучыць ягоны голас: "Матор! Камера! Паехалі!.." — і ўсяму ягоная воля надасць асэнсаванасці, жыцця...

Ты назаўсёды застанешся з намі, Валера, як наш сябра і калега.

**ТЭЛЕФІЛЬМАЎЦЫ**

ВЫСТАВЫ

# Першая ў серыі

Інстытут Гётэ ў Мінску пры дапамозе Галерэі візуальных мастацтваў Nova наладзіў выставу вядомага нямецкага фотамайстра Міхаэля Шэфера. Мінчукі павінны былі б пабачыць ягоныя творы яшчэ ў кастрычніку—лістападзе, але да гэтага часу не было адпаведнага памяшкання для экспазіцыі. Выстава адкрылася 27 студзеня і будзе працаваць па 3 сакавіка ў бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16).

Магчыма, што ў першыя хвіліны глядач будзе расчараваны. Гэта не зусім тое, што шырокая публіка ўкладае ў разуменне "фотамастацтва". Міхаэль Шэфер не палюе за унікальным кадрам, не скарыстоўвае спецыяльных эфектаў. У ягоны аб'ектыў трапляюць рэчы абсалютна "нефотагенічныя": паламаная цацка ў дзіцячай руцэ, нейкае галлё, чалавек за будзённай працай, твар у выпадковым асвятленні.

Так звычайна працуе аматар, які перш чым вызначыцца са сваёй уласнай тэмай, здымае ўсё запар. Так бы мовіць, "што бачу, тое і пяю". Аднак Шэфер робіць гэта свядома, асэнсавана. Гэта ягоны свет і фотамайстар імкнецца адлюстраваць яго з максімальнай дакладнасцю адмовіўшыся ад вызначэння субарыднацыі падзей і з'яў (хоць многія менавіта ў вызначэнні "галоўнага" і "другараднага", "ісціннага" і "несапраўднага" бачаць сэнс творчасці). Для Міхаэля Шэфера галоўнае ўсё, бо няма ў жыцці нічога выпадковага.

Гэта экспазіцыя распачынае серыю выстаў "Аспекты сучаснай нямецкай фатаграфіі". Прынамсі, такія ў Інстытуце Гётэ ў Мінску. Калі яны будуць здзейснены, то мінская публіка будзе ведаць германскае фотамастацтва лепей за беларускае. Дзейнасць Гётэ-цэнтра — добры прыклад таго, як трэба прапагандаваць мастацтва. Тут варта і павучыцца, і парупіцца.

**Н. К.**

# Абыякавасці не цярпеў

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

да працэсаў дэмакратызацыі Алесь Міхайлавіч паглядзеў на мяне і, пэўна, прыгадаўшы музей валуноў, адказаў, што ўлады, як тыя замшэлыя нямыя валуны, не хочуць ніякіх зрухаў наперад.

Галоўнае крэда А. Адамовіча — ўсюды змагацца за праўду, шукаць ісціну — у жыцці, літаратуры, грамадскасці. Адзін з першых ён пачаў адкопваць праўду чарнобыльскай катастрофы, якую ўлады замоўчвалі. Ён дабраўся да самых вярхоў і ў Мінску — да М. Слюнькова, і ў Маскве — да М. Гарбачова, першы пачаў біць у жалобны набат. Ён ведаў, што гэта можа нашкодзіць яму асабіста, але здрадзіць праўдзе не мог. Я памятаю, як прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. Барысевіч раіўся са мной наконт кандыдатаў у акадэмікі і назваў у тым ліку і член-карэспандэнта А. Адамовіча. Я адразу падтрымаў яго кандыдатуру. У спіс кандыдатаў у акадэмікі на новыя выбары, які падаваўся ў ЦК КПБ, было ўключана і яго прозвішча. У той час і колькасць новых членаў Акадэміі, і нават персанальны спіс кандыдатаў зацвярджаўся ЦК КПБ, якому такія барацьбіты за праўду, як А. Адамовіч, зусім не падабаліся, і таму першы сакратар ЦК КПБ М. Слюнькоў выкрасліў прозвішча гэтага выдатнага пісьменніка і вучонага-літаратуразнаўцы.

А. Адамовіч — чалавек чыстага сумлення, балюча ўспрымаў усе падзеі сучаснага жыцця, бясстрашна кідаўся ў самыя кіпельныя яго кропкі, змагаўся і марыў пра лепшую будучыню свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны, усяго чалавецтва, ніколі не заставаўся абыякавым, бо абыякавасці не цярпеў усім сваім нутром. Сэрца не вытрывала напружання — здарыўся інфаркт.

Апошні раз я сустрэў Алеся Міхайлавіча позняй восенню на дачы каля Раўбіч. Ён ішоў на прагулку ўздоўж Дуброўскага вадасховішча. "Распрацоўваю разбоўтанае сэрца", — з лёгкай усмешкай сказаў. Потым дабавіў: "Пара перабірацца дахаты, назад у Мінск. Возьмеце мяне ў акадэмію, знойдзецца месца для мяне?" Я з вялікай радасцю падтрымаў такое рашэнне. Ён пайшоў далей ужо не такім шыбкім крокам (амаль подбегам), як раней, але па-ранейшаму стромкі, прыгожы, задумлівы... Такім я яго і запомніў.

Праз некалькі месяцаў А. Адамовіча раптоўна не стала. Дом літаратара не змог змясціць усіх, хто хацеў развітацца з ім...

На наступны год пасля смерці А. Адамовіча ў пачатку верасня сабраўся Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць", які прайшоў пад знакам і ўплывам думак выдатнага пісьменніка, вучонага, грамадскага дзеяча. Былі ўручаны першыя Літаратурныя прэміі імя Алеся Адамовіча ў галіне публіцыстыкі за 1995 год. Усе ўдзельнікі прыехалі ў Глушу на могілкі, дзе яго мяцежны дух знайшоў супакой побач з бацькамі, братам. І ляжыць там прыгожы светла-чырвоны валун з хвалістымі пражылкамі, якія нагадваюць поўнае турбот і неспакою жыццё. І на ім сціплы надпіс: "Алесь Адамовіч", а трохі вышэй выбіты невялікі крыжык. І гэты валун — цудоўнае стварэнне вечнай прыроды, які выбралі Вера Сымонаўна Адамовіч, Васіль Быкаў, Валерый Янушкевіч і я, сярод калекцыі музея валуноў Акадэміі навук, будзе вечна нагадваць нашчадкам пра слаўтага сына Беларусі.

Як асабісты запавет, пакінуў мне Алесь Міхайлавіч надпіс на кнізе "Браму скарбаў сваіх адчыняю": "Дарагому Радзіму Гаўрылавічу, якому несці далей выдатны цяжар дабрыні, сумленнасці і таленту Гарэцкіх. Жадаю Вам здароўя, сіл і поспехаў на гэтым шляху! 11.10.1980 А. Адамовіч".

Нялёгка гэта, але стараюся.

У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

Сэрцам дзякуем усім, хто падзяліў з намі пякучы боль беззваротнай страты.

**Родныя і блізкія Аляксандра Уладамірскага**

